ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№5 (122)
май 2021 год
CATHOLICNEWS.BY

# Пажар у Будславе.

## Абраз Маці Божай Будслаўскай удалося ўратаваць

**Раніцай 11 мая загарэўся дах касцёла ў Будславе – Нацыянальнага санктуарыя Маці Божай Будслаўскай, аднаго з самых велічных касцёлаў Беларусі.**

На ліквідацыю пажару з'ехаліся брыгады з усіх суседніх раёнаў Мінскай і Віцебскай абласцей. А вернікі кінуліся выносіць каштоўнасці. Цудадзейны абраз Маці Божай Будслаўскай і Найсвяцейшы Сакрамант уратавалі. На жаль, агонь распаўсюдзіўся на ўвесь дах, і той абваліўся прыкладна праз тры гадзіны пасля выяўлення пажару.

Праз некалькі гадзін пасля пачатку пажару прыехалі брыгады з Мінска. Галоўнай задачай на гэтым этапе было ўратаваць вежы і фасад, а таксама арган.



### Што з будслаўскім арганам?

Аляксандр Бурдзялёў – укладальнік энцыклапедыі "Арганы Беларусі" – піша на сваёй старонцы ў Фэйсбуку:

"Стан аргана ад пажару моцна не змяніўся, не пацярпеў ад высокай тэмпературы: вуглі, што падалі на яго, хутка патушылі да развіцця ўзгарання, крытычнага залівання вадой важных механізмаў не адбылося. Але ў той жа час гэта не азначае адсутнасці шкоды ў доўгатэрміновай перспектыве (праз знішчэнне даху касцёла). Цяпер арган застаецца ў касцёле ў неразабраным выглядзе, за выключэннем рэштак рэгістра Vox humana і 95% драўляных труб. Яшчэ падчас ліквідацыі пажару па просьбе пробашча кс. Дзмітрыя Дубовіка пачалося абмеркаванне магчымых тэрміновых дзеянняў па мінімізацыі шкоды для інструмента. Згодна з атрыманымі адказамі розных падрабязнасці ад шэрагу арганолагаў, было вырашана арган не разбіраць ва ўмовах малой ступені залівання – у адпаведнасці з аналагічнымі выпадкамі ў сусветнай практыцы".

Адразу пасля атрымання паведамлення пра пажар у Будслаў прыехалі каталіцкія біскупы Казімір Вялікаселец, Тадэвуш Кандрусевіч, Алег Буткевіч, Аляксандр Яшэўскі.





### Прадстаўнік МНС: "Будынак мы выратавалі"

Афіцыйны прадстаўнік Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Віталь Навіцкі ў сваім Фэйсбуку падзяліўся інфармацыяй пра пажар у будслаўскім касцёле.

Ён адзначыў: зборльшага ўсе прызналі, што "будынак мы выратавалі". "Зразумела, наперадзе доўгі і няпросты рамонт, звязаны з працай на вышыні, безумоўна, яшчэ трэба высветліць прычыны (паводле меркавання мясцовых жыхароў і развіцця пажару атрымліваецца, што гарэць магло пачаць яшчэ ноччу), але мае калегі зрабілі ўсё магчымае і крыху больш.

Вельмі спрошчана прынята лічыць, што пры такіх пажарах ёсць дзве тактыкі. Першая – лі і не шкадуй. Можна і пенай, можна і верталётамі, усё залежыць ад тэхнічных магчымасцяў. Але ўжо першыя работнікі МНС, якія прыбылі на месца (праз чатыры хвіліны пасля паведамлення), зразумелі: тут ёсць за што пазмагацца, і вырашылі дзейнічаць інакш. Адразу ж былі прыцягнутыя дадатковыя людзі і тэхніка. Акрамя ратавальнікаў з суседніх раёнаў, выехалі хлопцы з Мінскага гарадскога ўпраўлення МНС. На выезд пад'ёмнай тэхнікі са сталіцы пайшло пару хвілін, і вопыт хлопцаў таксама спатрэбіўся ў Будславе. А далей была "кропкавая" падача вады. Паблізу алтара, паблізу аргана, які нельга было вынесці, але трэба было ўратаваць, у схаваныя паражніны канструкцый даху.

Вядома, карцінка атрымалася не такая яркая: 12 лафетных ствалоў выглядалі б куды больш эпічна і справіліся б хутчэй, але і абваленым дахам дакладна не абышлося б, не кажучы ўжо пра ваду, якая яшчэ больш бы змыла/размыла/знішчыла следам за агнём". Наперадзе ў беларускага народа будзе вялікая праца па аднаўленні святыні.



**Беларускія біскупы накіравалі зварот да вернікаў у сувязі з пажарам.** **Старонка 2**

### Ці будзе Будслаўскі фэст?

Нягледзячы на тое, што эксплуатацыя пацярпелага ад пажару санктуарыя ў Будславе цалкам забаронена, урачыстасці ў гонар Апякункі Беларусі Маці Божай Будслаўскай пройдуць без зменаў – 2 і 3 ліпеня, паведаміў Catholic.by.

Урачыстасці плануецца правесці ў традыцыйным фармаце, але з захаваннем належных санітарных прадпісанняў і без арганізаваных пілігрымак.

Пры гэтым усе ахвотныя могуць ладзіць пілігрымкі ў індывідуальным парадку. Так было ўжо ў мінулым годзе, калі ўпершыню ў новай гісторыі Будслаўскага фэсту праз складаную эпідэміялагічную сітуацыю ў Нацыянальны санктуарый не ішлі вялікія арганізаваныя групы пілігрымаў.

*Паводле nn.by*

*Здымкі на 1-й і 2-й старонцы **Арцёма Ткачука***





# Зварот Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі аб дапамозе ў сувязі з пажарам у Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай

**Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, вернікі Каталіцкага Касцёла ў Беларусі!**

11 мая ў Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай, Апякункі Беларусі, адбыўся пажар, у выніку якога быў моцна пашкоджаны будынак галоўнай марыйнай святыні нашай Айчыны.

На вестку пра гэтую трагедыю адразу адгукнуліся людзі розных рэлігій і нацыянальнасцяў, як з Беларусі, так і з-за мяжы, працягнуўшы руку дапамогі беларускім католікам.

Ужо цяпер мы скіроўваем словы шчырай удзячнасці да прыватных дабрачынцаў і арганізацый за ўнёсак у нашу супольную справу – адбудову нацыянальнага санктуарыя.

Мы, каталіцкія біскупы Беларусі, заклікаем усіх вернікаў Каталіцкага Касцёла ў нядзелю Спаслання Духа Святога, 23 мая, з асаблівай руплівасцю маліцца ў інтэнцыі адбудовы будслаўскага касцёла і далучыцца да матэрыяльнай дапамогі праз складанне ахвяраванняў, збор якіх будзе праводзіцца пасля святых Імшаў у кожнай парафіі нашай краіны.

Няхай заступніцтва Маці Божай спрыяе нам у як найхутчэйшым аднаўленні Яе святыні, а ўсім людзям добрай волі, якіх яднае гэтая высакародная мэта, выпрасіць блаславёнле Божага Сына.

*З удзячнасцю і благаслаўленнем,*
*Каталіцкія Біскупы Беларусі*
*Мінск, 13 мая 2021 года,*
*ва ўрачыстасць Унебаўшэсця Пана.*

**Сабраныя пры парафіях ахвяраванні могуць быць пералічаныя на дабрачынны разліковы рахунак парафіі ў Будславе альбо перададзеныя ў Курыю.**

**Дабрачынны разліковы рахунак:**
Религиозная община "Римско-католический приход Успения Пресвятой Девы Марии" аг. Будслав Мядельского района
***222374 Минская обл., Мядельский р-н, аг. Будслав,***
***ул. Красная площадь, 8***
**BY10BAPB31353404200300000000** (BYN)
ОАО "Белагропромбанк" г.Минск
Код банка: BAPBBY2X

# У літанію да святога Юзафа дадаюцца новыя звароты

**Папа Францішак вырашыў "абнавіць" літанію да св. Юзафа, зацверджаную Святым Пасадам у 1909 г., уключыўшы ў яе сем новых зваротаў, узятых з разважанняў Пантыфікаў над аспектамі асобы апекуна Паўсюднага Касцёла.**



Такім чынам, у літаніі з'явяцца новыя звароты:

Custos Redemptoris быў узяты з адгартацыі Redemptoris custos св. Яна Паўла II;

Serve Christi – з гамілії св. Паўла VI, прамоўленай 19 сакавіка 1966 г.;

Minister salutis – аўтарам звароту з'яўляецца св. Ян Залатавуст – яго цытуе св. Ян Павел II ва ўзгаданай адгартацыі Redemptoris custos;

Fulcimen in difficultatibus – так характарызуе св. Юзафа Папа Францішак у пралогу нядаўняга Апостальскага ліста Patris corde;

Patrone exsulum, Patrone afflictorum, Patrone pauperum – паводле Апостальскага ліста Patris corde.

У адмысловым лісце Кангрэгацыя Божага культу і дысцыпліны сакрамантаў падкрэсліла, што арганізацыяй перакладу на нацыянальныя мовы і выданнем новай рэдакцыі літаніі зоймуцца мясцовыя Канферэнцыі Біскупаў. Не будзе неабходнасці ў зацвярджэнні перакладу Апостальскай Сталіцай. Больш за тое, епіскапаты змогуць унесці ў літанію іншыя звароты, якімі св. Юзаф ушаноўваецца ў іх краінах.

Нагадаем, што сёлета адзначаецца 150-я гадавіна абвяшчэння св. Юзафа апекуном Паўсюднага Касцёла. Гэта стала нагодай для абвяшчэння Папам адмысловага Года, прысвечанага Абранніку Багародзіцы. Ён распачаўся 8 снежня 2020 г.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Алена Шэвалдышава** *(Мінск)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Алена Карневіч** *(Ніўнае)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Вячаслаў Манчынскі** *(Крулеўшчына)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Генавэфа Ермаковіч** *(Завараты)*, **Васіль Яноўскі** *(Завараты)*, **Рух "Маргарытка" з Задарожжа**, **Тэрэса Хвайніцкая** *(Руткевічы)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Альгіна Булах** *(Глыбокае)*, **Уладзімір і Кацярына Баравік** *(Мёры)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Аліна Пятрова** *(Мёры)*, **Марыя Вішнеўская** *(Мёры)*, **Ядвіга Жолнер** *(Муцеўшчына)*, **Яніна Рагіня** *(Муцеўшчына)*, **Часлава Паўлючонак** *(Муцеўшчына)*, **Міхаіл Дуброўскі** *(Нагаўкі)*, **Ганна Карніловіч** *(Глыбокае)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Вярцінская М.Б.** *(Вярцінскія)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Юзэфа Малей** *(Сітцы)*, **Дубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Усціновіч В.І.** *(Януковічы)*, **Яніна Маркоўская** *(Мінск)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Альдона Макоўская** *(Відзы)*, **Трайко Я.А.** *(Карасіна)*, **Кліменціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Алена Дзедава** *(Наваградак)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Новалукомль)*, **Аліна Латыш** *(Паставы)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Марыя Борыс** *(Геранёны)*, **Ларыса Фёдарава** *(Глыбокае)*, **Даната Алейнік** *(Мосар)*, **Станіслава Носка** *(Мосар)*, **Ірэна Сіманенкава** *(Мосар)*, **Часлава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Яніна Бука** *(Мосар)*, **Яніна Ластоўская** *(Мосар)*, **Ядвіга Лысёнак** *(Мосар)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Марыя Міронава** *(Мосар)*, **Зоф'я Скукоўская** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Альжбета Калмук** *(Мосар)*, **Алена Ліпская** *(Мосар)*, **Часлава Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Вераніка Курыловіч** *(Мосар)*, **Яніна Стаўронская** *(Луцк Масарскі)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)* .

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Айцец Юзаф Пятушка: “Уладзе плюс, калі яна кіруецца маральнымі каштоўнасцямі рэлігіі”

**У выдавецтве “Канфіда” рыхтуецца да друку кніга “Апосталамі не нараджаюцца”, якая складаецца з гутарак журналіста Яраслава Чаплі са старэйшым рыма-каталіцкім святаром Беларусі айцом Юзафам Пятушкам.**

**Яраслаў Чапля**, *sn-plus.com*

Першая палова святарскага жыцця 90-гадовага ксяндза прайшла ў Польшчы, другая – у Барысаве. Адной з тэмаў гутарак сталі адносіны дзяржавы з Рыма-каталіцкай Царквой. Прапануем вашай увазе невялікі фрагмент гэтай часткі кнігі.

**Аўтар:** “У 1947 годзе Каталіцкі Касцёл у партыйных і дзяржаўных дакументах Польскай Народнай Рэспублікі афіцыйна быў абвешчаны галоўным ворагам улады. Але вы распавядалі, што дзяржава ў Польшчы адразу пасля вайны фінансавала аднаўленне вялікай колькасці каталіцкіх святыняў. Як стасуецца адно з другім?”

**Айцец Юзаф Пятушка:** “Складваецца ўражанне, што ў камуністычнай улады адразу пасля вайны не было поўнай пазіцыі адносна сакральных будынкаў. З аднаго боку, на працягу самых цяжкіх васьмі пасляваенных гадоў дзяржава фінансава дапамагала аднаўленню 400 святыняў, якія лічыла архітэктурнымі і гістарычнымі помнікамі, а з другога – разбурыла 300 грэка-каталіцкіх касцёлаў і некалькі дзясяткаў рыма-каталіцкіх”.

**Аўтар:** “Улада ў Савецкім Саюзе пра аднаўленне рэлігійных будынкаў не дбала. Вы добра ведаеце, якія цудоўныя хрысціянскія храмы былі знішчаныя на нашай зямлі. А большасць з тых, якія не былі зруйнаваныя, зведалі святатацтва. Частка цэркваў і касцёлаў урэшце была вернута вернікам, асабліва актыўна працэс рэстытуцыі адбываўся ў пачатку 1990-х. Але нямала былых святыняў застаецца занятымі рознымі ўстановамі.

Мы з Вамі гаварылі пра вяртанне касцёлаў католікам, але гэта тэма баліць і вернікам іншых канфесій. Праваслаўныя памятаюць пра адабраныя цэрквы ў самых розных куточках Беларусі; мусульмане ўспамінаюць свае мячэці ў Мінску, Смілавічах і Відзах; юдэі – сотні малельных дамоў і сінагогаў, будынак адной з якіх – харальнай сінагогі ў Мінску – вядомы ўсім як Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Максіма Горкага; лютэране – кірху ў Полацку, перарobленую пад краязнаўчы музей. Час ад часу чуюцца галасы пра іх вяртанне сваім сапраўдным гаспадарам, ды грамадства і дзяржава гэтыя галасы не надта чуюць”.

**Айцец Юзаф Пятушка:** “Думаю, што працэс рэстытуцыі будынкаў, якія некалі служылі вернікам, у Беларусі няпросты. Ён аб'ектыўна ўпіраецца ў шматлікія праблемы – эканамічныя, сацыяльныя, грамадска-палітычныя, урэшце, псіхалагічныя. Тыя краіны Усходняй Еўропы, якія прынялі законы аб рэстытуцыі, з імі таксама сутыкнуліся.

Згодна з законам, рэлігійныя арганізацыі павінны былі атрымаць адабраныя ў розны час больш як 11 тысяч аб'ектаў рэлігійнага прызначэння. Сярод іх 10 643 праваслаўныя, 165 мусульманскіх, 144 каталіцкія, 21 будысцкі, 15 юдэйскіх. Закон вызначыў і канкрэтныя тэрміны для перадачы маёмасці: шэсць гадоў, калі яна замацавана за ўстановамі аховы здароўя або культуры, унітарнымі прадпрыемствамі або калі там жывуць людзі, і два гады для іншых выпадкаў. Прычым закон прымушаў уласніка маёмасці да перадачы яе рэлігійнай арганізацыі зрабіць у будынку рэстаўрацыйна-аднаўленчыя работы”.

**Аўтар:** “Беларускія сродкі масавай інфармацыі ў 2010 годзе абышлі ўвагай факт прыняцця ў Расійскай Федэрацыі закона “Аб перадачы рэлігійным арганізацыям маёмасці рэлігійнага прызначэння, якая знаходзіцца ў дзяржаўнай або муніцыпальнай уласнасці”. І дарэмна, бо вопыт суседзяў у гэтай справе для Беларусі можа быць вельмі карысны.

Так, ніхто не гаворыць, што працэс рэстытуцыі сакральных аб'ектаў беспраблемны, але ў прававой дзяржаве без яго не абысціся. Дзяржава сістэмным працэсам рэстытуцыі рэлігійнай нерухомасці, які б не залежаў ад волі асобных чыноўнікаў, магла б не толькі вярнуць гістарычную справядлівасць, але і паказаць, што яна сапраўды гарантуе недатыкальнасць правоў уласнікаў.

Дарэчы, айцец Юзаф, нехта мне казаў, што ў Барысаве Вы доўгі час жылі непасрэдна ў касцёле. Я стараюся зразумець: а дзе?”

**Айцец Юзаф Пятушка:** “У адной з вежаў – той, дзе знаходзіцца сакрыстыя. У ёй стаялі звычайныя драбіны на другі паверх. Там ёсць невялікае памяшканне – каля дзесяці квадратных метраў, якое я прыстасаваў пад сваё жытло. Грошы – і вялікія! – былі патрэбныя на рамонт святыні, так што адскубваць з іх яшчэ і на арэнду кватэры я не меў маральнага права.

Праўда, я мог атрымаць жыллё задарма: Барысаўскі выканкам двойчы хацеў даць мне двухпакаёвую кватэру. Я быў вельмі ўдзячны гарадскім уладам за такі клопат, але ад падарунка адмовіўся: па-першае, у мяне хоць у вежы, але меўся свой пакой, у той час як многім тая кватэра была больш патрэбная. А па-другое, я лічыў абавязковым захаваць незалежнасць ад улады. Пагадзіцеся, для святара гэта вельмі важна. Падобна да таго, што ў гарвыканкаме маю пазіцыю зразумелі і прынялі. Ва ўсякім выпадку і са старшынёй, і з іншымі чыноўнікамі ў мяне былі добрыя стасункі. Можа, не заўсёды бясхмарныя, час ад часу можна з бакоў выпускаў кіпцюры, але неканструктыўнымі нашы адносіны я назваць не магу”.

**Аўтар:** “А ў сітуацыі з атрыманнем зямлі пад будаўніцтва касцёла ў Нова-Барысаве чаго мелася больш – усмешак ці “кіпцюроў”?”

**Айцец Юзаф Пятушка:** “Мабыць, другога. Справа ў тым, што гарадскія ўлады былі гатовыя выдзеліць плошчу пад новую каталіцкую святыню, але даволі доўгі час прапаноўвалі месцы дзесьці на выселках. Я ж даводзіў, што гэта непрымальна. Урэшце плошчу пад будаўніцтва касцёла далі на цэнтральнай магістралі пры ўездзе з боку Мінска, побач з мікрараёнам, у якім жывуць тысячы гараджан”.

**Аўтар:** “У 2007 годзе Вам уручылі медаль “Pro Ecclesia et Pontifice” – “За заслугі перад Касцёлам і Папам”. Гэтая ўзнагарода навяла мяне вось на якія думкі. У Расійскай імперыі лічылася звычайнай справай узнагароджанне дзяржаваю духоўных асобаў. Сярод ордэнаў імперыі былі два – Святой Ганны і Святога Станіслава, – якімі даволі часта ўганароўваліся святары. Так, у 1916 годзе цар Мікалай II узнагародзіў ордэнамі сем каталіцкіх святароў, якія служылі на тэрыторыі Беларусі.

У Савецкім Саюзе духоўных асобаў так не ўшаноўвалі. Нават за выратаванне іншых коштам уласнага жыцця. Нават пасмяротна. Не ўзнагародзілі адзінаццаць манахінь-назарэтанак з Навагрудка, якія самі папрасіліся ў гестапаўцаў пайсці на смерць замест ста дваццаці мясцовых жыхароў, прысуджаных фашыстамі да расстрэлу. Як не ўзнагародзілі і архімандрыта Аляксандра Вішнякова, праваслаўнага святара з Кіева, які ў першыя месяцы нямецкай акупацыі ахрысціў шмат габрэяў, выдаўшы ім пасведчанні аб сакраманце хросту, чым уратаваў не адну габрэйскую сям'ю, а сам, выдадзены немцам, быў расстраляны ў Бабіным Яры.

І вось тут пытанне, айцец Юзаф: ці патрэбна святару дзяржаўная адзнака яго служэння? Ці не ёсць узнагароджанне ордэнам ці медалём вельмі далікатным варыянтам зрабіць святара “ўдзячным”, каб не заўважаў немаральных дзеянняў улады ці яе асобных функцыянераў? Прычым гэтае пытанне можна адрасаваць святару не толькі ў Беларусі, а і ў любой краіне”.

**Айцец Юзаф Пятушка:** “З Вашага пытання можна зрабіць выснову, што святар апрыёры знаходзіцца ў апазіцыі да дзяржавы, і яна зацікаўлена, каб яго “падкупіць”. Ні пра якую апазіцыйнасць гаворка не можа ісці. Проста трэба памятаць словы Хрыста, сказаныя Ім фарысеям: “Дык аддавайце цэзарава цэзару, а Божае – Богу” (Мц 22:21). Вядома, кожны святар, жывучы ў дзяржаве, павінен выконваць яе законы. Але служыць ён толькі Богу і людзям. І ў гэтым яго незалежнасць ад дзяржавы, фінансавых структур, прадпрымальніцкіх колаў. А калі дзяржава нейкім чынам адзначае руплівасць святара той ці іншай канфесіі, то гэта плюс у першую чаргу самой дзяржаве: значыць, для ўлады важныя духоўныя каштоўнасці, якія прапаведуе святар (а ўсе рэлігіі, па вялікім рахунку, грунтуюцца на аднолькавых маральных каштоўнасцях), і яна, улада, кіруецца (ці хаця б імкнецца кіравацца) імі ў сваёй дзейнасці”.


Айцец Юзаф Пятушка. *Здымак Вікторыі Лебзяк*


Яраслаў Чапля

# Глыбоцкі кляштар кармелітаў босых:

*– Колькі вы маеце ўладанняў?*
*– Сто вёсак.*
*– О, гэта так шмат! А чым вы займаецеся?*
*– Молімся.*
*– О, гэта так мала!*
*З легенды пра размову Напалеона Банапарта з прыёрам кармелітаў у Глыбокім*

**Ордэн кармелітаў сваю гісторыю традыцыйна выводзіць ад групы пустэльнікаў, якія пасяліліся ля гары Кармэль. Адбылося гэта ў XII стагоддзі.**

**Раіса Зянюк**, *гісторык*

Афіцыйнае зацвярджэнне ордэн атрымаў у 1226 г. – у час, калі ўзнікалі і іншыя ордэны, якія атрымалі назву "жабрачых". Акрамя кармелітаў, у гэтую групу залічваюць яшчэ дамініканцаў і францысканцаў. Жабрачымі ордэны назвалі таму, што ў адпаведнасці з першапачатковымі статутамі ані яны, ані іх чальцы не маглі мець уласнасці. Аднак з развіццём ордэнаў стала неабходнай іх больш стабільная арганізацыя, што патрабавала наяўнасці манастыроў і зямельнай уласнасці. Афіцыйная назва – "Ордэн братоў Найсвяцейшай Дзевы Марыі з гары Кармэль". У 1452 г. узнікла жаночая галіна ордэна.

У 1580 г. у выніку рэформы ў ордэне з'явілася галіна, якую назвалі "Ордэнам братоў босых Найсвяцейшай Дзевы Марыі з гары Кармэль". Традыцыйна гэтыя дзве галіны сталі называць кармелітамі босымі і кармелітамі чаравічковымі (абутымі). На беларускіх землях кармеліты абутыя (чаравічковыя) мелі найбольш моцныя пазіцыі і большую колькасць манастыроў. Кляштараў кармелітаў босых было толькі 4: у Глыбокім, Гродне, Гудагаі і Мядзелі.

Гісторыя Глыбокага, яго феномену (складання з двух частак "радзівілаўскай/горада" і "кармеліцкай/мястэчка") і кармелітаў – тэма не новая і дастаткова даследаваная. Ужо выдадзены шэраг манаграфій і публікацый (напрыклад, а. Бенігнуса Юзафа Ваната аб кармеліцкіх кляштарах, Отта Хедэмана пра Глыбокае, зборнік цэнтра Сэфер пра Глыбокае, ёсць бакалаўрская праца Аляксандра Івашчонка пра ролю і месца кляштара кармелітаў босых у Глыбокім).

Аднак хацелася б яшчэ раз нагадаць пра існаванне і дзейнасць гэтага манастыра і звярнуцца да формаў уключэння мясцовых кармелітаў у сацыякультурнае жыццё краю ў канцы XVIII–XIX ст. – у час, калі беларускія землі знаходзіліся ў складзе Расійскай імперыі. У якасці складнікаў гэтай сферы можна вылучыць наступныя: адукацыя, кніжная справа, душпастырства, дабрачыннасць. Хочацца адзначыць, што глыбоцкія кармеліты не вылучаліся кірункамі дзейнасці сярод іншых ордэнаў і іх кляштараў, якія існавалі на беларускіх землях. Практычна для ўсіх кляштараў былі характэрныя пералічаныя напрамкі актыўнасці.

Глыбокае было невялікім мястэчкам. У яго "радзівілаўскай" частцы (не той, дзе знаходзіўся кляштар) у 1807 г. налічвалася 198 яўрэйскіх дымоў (двароў) і 134 хрысціянскія. У 1820 г. прапорцыі адпаведна 234 і 89. У "кармеліцкай" частцы Глыбокага яўрэям было забаронена сяліцца, што не перашкодзіла некаторым з іх уступіць у ордэн. Ёсць звесткі пра двух яўрэяў, якія прынялі хрысціянства і ўступілі ў ордэн. Агулам у Глыбокім пражывалі прадстаўнікі розных этнасаў і канфесій. У XIX ст. тут жылі



Былы кармеліцкі касцёл, зараз праваслаўная царква. *Здымак Змітра Лупача*

хрысціяне (уніяты, каталікі, праваслаўныя), іудзеі, мусульмане (нешматлікая група, 2 мужчыны і 2 жанчыны ў 1880 г.). Асноўнымі саслоўнымі групамі былі мяшчане і сяляне. Малакольскаснымі – купцы, дваране, духавенства, дваравыя людзі (служылі ў Глыбоцкім двары) і ваенныя.

Кляштар кармелітаў у Глыбокім быў заснаваны Юзафам Корсакам, ваяводам і старастам Мсціслаўскім. Даследчыкі адзначаюць, што ён напісаў два фундацыйныя дакументы. Першы – у Варшаве 29 лістапада 1636 г., які прадставіў каралю. Другі – адрэдагаваны – 20 верасня 1640 г. Неабходнасць рэдакцыі была выклікана тым, што некаторыя пункты першапачатковага варыянту не ўзгадняліся са статутамі кармелітаў.

Глыбоцкі кляштар кармелітаў босых быў найлепш забяспечаны сярод кляштараў гэтага ордэна ў Літоўскай правінцыі. Перад канфіскацыяй расійскімі ўладамі ўсіх духоўных маёнткаў, якія належалі каталіцкай царкве, глыбоцкія кармеліты мелі ва ўласнасці 11 фальваркаў у трох паветах (Віленскім, Дзісненскім і Барысаўскім), 67 вёсак з 800 дымамі, у якіх жылі 2533 мужчыны. Кляштару належала 14 млыноў. Штогадовы даход з усіх гэтых маёнткаў складаў амаль 13 тысяч срэбраных рублёў.

Непасрэдна ля кляштара быў вялікі сад і некалькі сажалак, у якіх гадавалі рыбу. Ёсць згадкі, што глыбоцкія кармеліты "патаналі ў раскошы". У кляштары працаваў штат слуг. У сярэдзіне XIX ст. іх налічвалася 69 чалавек, сярод якіх 3 закрыстыяніны, 2 памочнікі арганіста, 5 кухараў, 3 пекары, 3 краўцы, 3 шаўцы, 3 сталяры, 3 кавалі, 2 агароднікі, 3 цырульнікі, 3 фурманы, 7 парубкаў, 5 рыбакоў і іншыя. Такую фінансавую сітуацыю запэўнілі глыбоцкім кармелітам іх фундатары – Корсакі. Пры гэтым яны фінансава падтрымалі не толькі прадстаўнікоў рымска-каталіцкай царквы, але і ўніяцкай (добра забяспечылі Беразвецкі кляштар базыльянаў).

Што датычыць персанальнага складу кляштара, то ён, у пэўнай ступені, быў адпаведны яго матэрыяльнаму забеспячэнню. У 1834–1835 гг. там пражывалі 24 манахі, у тым ліку 16 святароў, 5 клерыкаў пасля першых шлюбаў, 3 браты. У сярэдзіне XIX ст. кляштар налічваў 10 святароў, 8 клерыкаў пасля першых шлюбаў, 7 навіцыяў, 1 брата прафеса, 6 братоў навіцыяў. Гэты кляштар можна аднесці да найбуйнейшых на тэрыторыі Беларусі ў абазначаны перыяд.

Дзякуючы ўмовам фундацыі пры кляштары дзейнічалі манаскія студыі, якія забяспечвалі падрыхтоўку будучых святароў. Грунтоўны матэрыяльны дабрабыт, а таксама кадравы рэсурс лагічна ўплывалі і на фарміраванне шырокага спектру сацыякультурных і дабрачынных ініцыятыў, якія існавалі пры кляштары. Да іх можна аднесці наступныя:

## Душпастырства

Кармеліты не мелі ўласнай парафіі. Паводле фундацыйнага дакумента, яны былі абавязаныя ўтрымліваць дыяцэзіяльнага святара, які б здзяйсняў парафіяльныя функцыі (перадусім удзяляць сакраманты). Для яго ўтрымання фундатар вызначаў дадатковыя сродкі.

Асноўнай формай душпастырскай дзейнасці глыбоцкіх кармелітаў былі брацтвы. У канцы XVIII – пачатку XX стст. брацтвамі ў рымска-каталіцкім касцёле называліся згуртаванні альбо таварыствы вернікаў, якія аб'ядноўваліся ў рэлігійных альбо дабрачынных мэтах і былі афіцыйна зацверджаныя касцёлам. Пра брацтвы распавядалася ў папярэднім нумары "Каталіцкага весніка". Так, пры кляштарах і касцёлах кармелітаў традыцыйна дзейнічалі шкаплерныя брацтвы. Права на заснаванне гэтага брацтва меў выключна ордэн кармелітаў. Да заняткаў і абавязкаў яго чальцоў належала: 1) насіць шкаплер; 2) выконваць абавязкі свайго стану і ўчынкі міласэрнасці; 3) штодзённа маліцца вызначаныя малітвы; 4) дакладна захоўваць пасты; 5) не есці мясных страў таксама ў серады і суботы; 6) дапамагаць у працы ў касцёлах кармелітаў, асабліва ў пятніцы; 6) у адпаведнай вопратцы ўдзельнічаць ў касцельных працэсіях і пахаваннях.

У Глыбокім пры кармеліцкім касцёле дзейнічалі некалькі брацтваў. Першае – гэта традыцыйнае для кармелітаў брацтва Маці Божай Шкаплернай. У Глыбоцкім касцёле яно было заснавана з дазволу віленскага біскупа Ежы Тышкевіча 17 лістапада 1753 г. Другое – брацтва св. Юзафа, трэцяе – брацтва св. Барбары.



Касцёл і кляштар кармелітаў у Глыбокім, 1878 г.

⇒

# асноўныя формы ўключэння ў сацыякультурную дзейнасць (канец XVIII – пачатак XIX стст.)


Язэп Корсак, фундатар кляштара кармелітаў

## ⇒ Падтрымка адукацыйных ініцыятыў

Глыбоцкі кляштар заўсёды аказваў адукацыйныя паслугі мясцоваму насельніцтву. Тут пастаянна жылі некалькі бедных хлопцаў, якім давалася адукацыя. Функцыі выкладчыка выконваў адзін з манахаў. Ёсць звесткі, што ў 1829 г. дзейнасць гэтай школы была рэфармаваная і ўведзеная методыка Ланкастэра (т.зв. узаемнае навучанне). Для гэтай мэты на кляштарнай тэрыторыі аддалі асобны дом. Кармеліты прымалі на сябе абавязак утрымліваць у ім 15 вучняў і настаўніка. Пра гэта яны паведамілі ў Віленскі ўніверсітэт, на што атрымалі дазвол.

Ёсць звесткі, што на пачатку XIX ст. кармеліты навучалі каля сотні дзяцей. Гэта было навучанне дзяцей у тых вёсках, якія належалі кармелітам. У 1803 г. яны навучалі 84 чалавекі. Што давала школа акрамя асветніцкага складніку? Утрымліваючы навучальныя ўстановы, кармеліты захоўвалі ўплыў на дзяцей і іх бацькоў. Гэта было важна ва ўмовах неабходнасці захавання традыцый і ўмацавання пазіцый каталіцкага касцёла ў новых палітычных абставінах.

## Утрыманне канвікту

Усённяшнім разуменні канвікт – гэта інтэрнат, які забяспечваў пражыванне і ўтрыманне для вызначанай колькасці канвіктараў – вучняў школы, пры якой канвікт існаваў. Глыбоцкія кармеліты ўтрымлівалі такую ўстанову для 12 хлопцаў, якія мелі шляхецкае паходжанне і вучыліся ў павятовай школе, каторую ўтрымлівалі базыльяне ў Беразвеччы. Канвікт перажыў перыяды ўздыму і заняпаду. Менавіта ў канцы XVIII – пачатку XIX стст. ён аднавіў сваю дзейнасць. У 1806 г. у гэтым канвікце пражывала 10 вучняў, за ўтрыманне якіх плацілі глыбоцкія кармеліты.

У манаграфіі а. Б.Ю. Ваната ёсць звесткі пра візітацыю школы беразвецкіх базыльян. Візітатар адзначыў, што кляштар кармелітаў босых у Глыбокім утрымліваў пры тутэйшай школе канвікт, які складаецца з 10 чалавек беднай шляхты і выдзеленага для іх дазорцы (выхавальніка). Гэтым вучням кляштар забяспечваў "усе жыццёвыя патрэбы". Было наведана іх жыллё, якое знаходзіцца ў асобным драўляным будынку, што з'яўляецца ўласнасцю кармелітаў босых. Што да ўмоваў утрымання, то яны таксама апісаныя ў гэтым жа дакуменце: "Сталаванне: на абед 3 стравы, 2 на вячэру, на сняданне, падвячорак, вучням па кварце піва, дазорцу – 2; акрамя гэтага, дазорцу плацяць [штогод] наяўнымі 210 рублёў срэбраных і прадуктаў даюць – 4 бочкі жыта, масла 4 фаскі шасцігарнцавыя, круп ячменных – 15 гарнцаў, круп аўсяных пудоў 2, соладу ячменнага пудоў 3, буракоў салодкіх бочку, свечаў коп 2, дрэва сажняў 4, малако, 4 бочкі жыта ў кляштарным млыне".

Па звестках таго ж а. Б. Ваната ў 1819 г. адбылася чарговая візітацыя школы. Візітатар адзначыў, што штогадовы фундуш на ўтрыманне канвікту замалы, напрыклад, вучні не маюць зімовага адзення. Акрамя гэтага, не ўсе вучні, якія там знаходзяцца, сапраўды бедныя і патрабуюць такой падтрымкі. Візітатар адзначыў, што пры выбары канвіктараў кармеліты кіруюцца асабістымі знаёмствамі і поглядамі. Свае заўвагі ён прадставіў як глыбоцкім кармелітам, так і ў Віленскі ўніверсітэт, якому падпарадкоўвалася школа.

Беразвецкая школа была закрытая ў маі 1834 г. Канвікт ў 1835 г. перавялі ў дынабургскія школы, але і там ён дзейнічаў толькі да 1842 г, калі расійскія ўлады канфіскавалі ўсю маёмасць у каталіцкіх кляштараў.

## Бібліятэка

Каталіцкія манастыры традыцыйна былі цэнтрамі кніжнай справы ў розных яе праявах. У тым ліку – гэта і калекцыі друкаваных выданнях, утрыманне бібліятэк. Кніжныя зборы ў манастырах былі рознымі паводле аб'ёмаў. Бібліятэка глыбоцкіх кармелітаў была адной з найбольшых на тэрыторыі Беларусі. Па стане на 1830 г. у ёй налічваўся 2621 том кніг, якія дзяліліся на наступныя групы: Святое пісанне – 27 тамоў, св. Айцы – 73, экзэхеза – 115, кананічныя – 72, гістарычныя – 113, духоўныя – 809, медыцынскія – 29 і іншыя.

## Дабрачыннасць

Асноўным кірункам дабрачыннай дзейнасці глыбоцкіх кармелітаў было ўтрыманне шпіталяў. Існавалі два віды шпіталяў. У першым выпадку ўстанова дзейнічала менавіта для лячэння хворых людзей, у другім – гэта быў дом састарэлых, бедных і бяздомных, якія не мелі сродкаў на сваё ўтрыманне. Глыбоцкі кляштар апекаваўся шпіталем другога тыпу. Гэты абавязак усклаў на іх фундатар Юзаф Корсак сваім тастамантам ад 2 мая 1642 г. У ім ён абавязаў кармелітаў да пастаяннага ўтрымання ў шпіталі 12 бедных, якіх кармеліты павінны былі забяспечыць ежай і вопраткай. Гэты абавязак кармелітамі выконваўся. Напрыклад, у 1830 г. падчас біскупскай візітацыі ў шпіталі знаходзіліся 3 старыя мужчыны і 9 жанчын, якія былі на поўным утрыманні манастыра.

## Медыцынскі складнік

Медыцынскі складнік забяспечваўся праз утрыманне аптэкі. Сама яна змяшчалася ў будынку кляштара. На другім паверсе над памяшканнем аптэкі размяшчаўся склад зёлак, з якіх выраблялі лекі. Лекавыя сродкі прызначаліся як на продаж, так і для дабрачыннай медыцынскай падтрымкі мясцовага насельніцтва і манахаў.

## Музыка. Аркестр

Ёсць звесткі, што глыбоцкія кармеліты ўтрымлівалі аркестр з 40 чалавек, які іграў не толькі на набажэнствах, але і ў святочныя дні на балконе над уваходам у касцёл. Спіс музыкаў пакуль не выяўлены.

Кляштар кармелітаў у Глыбокім быў скасаваны ў 1862 г. Манахаў перавялі ў манастыр гэтага ж ордэна ў Камянцы Падольскім. Касацыі папярэднічаў шэраг абмежавальных мерапрыемстваў, якія зрабілі немагчымымі рэалізацыю традыцыйных сацыяльных і культурніцкіх ініцыятыў. Сярод іх асноўным было пазбаўленне ордэнаў і кляштараў маёмасці (1842 г.). Касцёл кармелітаў стаў філіяльным. Мерапрыемствы па садзеянні паўстанцам у 1863-1864 гг. (у кармеліцкім касцёле чыталіся адозвы, прымаліся прысягі ад паўстанцаў) паўплывалі на тое, што касцёл быў закрыты, а яго будынак перадалі праваслаўнай царкве.

*Артыкул падрыхтаваны на аснове даклада Р. Зянюк на канферэнцыі "Беларусь, Глыбоцкі край і Эдвард Вайніловіч"*


Руіны кляштара кармелітаў, сучасны стан. *Здымак Змітра Лупача*

# Что происходит с ребёнком, который растёт без отца?

**Семьи, в которых нет отца, к сожалению, перестали быть редкостью. Причины этого могут быть разные: мужчина умер, просто ушёл из семьи или супруги развелись. Это в данном случае не так важно, важен факт того, что ребёнок в семье будет недополучать мужского воспитания, внимания, заботы.**

**Марина Ткач**, *психолог*



Давайте попытаемся разобраться в непростых вопросах: "Что происходит с детьми, которые воспитываются без отца?" "Как отсутствие папы отражается на жизни мальчиков и девочек в их будущей взрослой жизни?" и "Как может вести себя женщина, когда мужчина ушёл из семьи?"

Прежде чем преступить к анализу особенностей воспитания детей без отца, я хочу затронуть типичную жизненную ситуацию, происходящую с женщиной в момент расставания с мужчиной.

Глобально есть два способа поведения женщины в такой ситуации:

- женщина испытывает целую гамму негативных чувств (гнев, обида, разочарование, злость, порой страх и чувство вины), задаётся вопросам "Что с ней не так?" В следствии этого ей кажется, что жизнь рушится, она чувствует себя ненужной и беспомощной;
- женщина всецело посвящает себя детям/ребёнку и его/их воспитанию.

Такие способы поведения вредят не только женщине, но и детям.

В первом случае беспомощность и потерянность матери вынуждает сына (это всегда касается только мальчика) из позиции "ребёнок" перейти в позицию "взрослый мужчина", который должен обеспечивать утерянное ощущение безопасности, стабильности и заботы. Но для мальчика это непосильная ноша, к которой он не готов ни физически, ни морально, ни, тем более, психологически. Думаю, это веский повод взять себя в руки. Поэтому не корите себя за случившееся, не считайте себя ненормальной или неполноценной. Негативные эмоции со временем ослабнут, а вам стоит уже сейчас вернуться к нормальной жизни, ведь вашему ребёнку/детям нужна мама, которая поддержит и просто будет рядом.

Второй способ поведения, когда женщина "растворяется" в детях, также чреват последствиями, а именно гиперопекой. В такой ситуации за детей всё решает мама, тем самым лишая их самостоятельности, чувства ответственности и воспитывая их инфантильными личностями. Уделять внимание ребёнку важно, но стоит сохранить личное пространство и времяпрепровождение, в котором не будет место детям. Это пойдёт на пользу и вам, и им, поверьте.

Итак, про особенности воспитания ребёнка без отца. Для начала обозначим основные признаки отсутствия мужского воспитания в семье – это неуверенность в себе, тревожность, сниженный уровень амбиций, социальная некомпетентность, спутанность в полоролевой идентичности (соотнесение себя к определённому полу и социальной роли) ребёнка. Потребность ребёнка в отцовской любви возникает, когда ребёнок начинает нуждаться в авторитете и руководстве со стороны отца. Ведь отец учит ребёнка решать задачи, которые в будущем поставит перед ним общество. Благодаря отцу ребёнок приобретает опыт отношений с другим человеком, не такой как с матерью. Именно в отношениях с отцом ребёнок обретает свою половую идентичность и соответствующие ей модели поведения.

Говоря об особенностях воспитания мальчиков и девочек без отца, стоит сказать, что, если без отца остался мальчик, здесь главное – не удариться в крайности. Важно не воспитать нытика, которого мама всегда жалеет, защищает и оберегает, потому что он остался без папы, либо жёсткого, агрессивного человека, который повзрослел слишком рано, потому что мама хотела, чтобы он "вырос настоящим мужчиной".

Ни в коем случае не стоит подрывать авторитет отца, даже если вы на него злы. Так на ребёнка возлагается вина за то, что он является представителем мужского пола. По возможности нужно поощрять все мужские поступки сына, показывать важность его помощи, уважать его мнение, даже если оно кажется смешным и нелепым. Также важно прививать мальчику



мужские качества: держать слово, помогать слабым, находить компромиссы, нести ответственность и т. д. Только помните: делать это нужно с умом и лучше, если эта информация будет исходить от мужчины. Нужно дать понять сыну, что есть мужское поведение и отношение к жизни, способы решения проблем. Для этого можно найти достойного мужчину, который станет примером для подражания. Это может быть мужчина из числа родственников: дедушка, дядя, старший брат или тренер, сосед, учитель в школе, священник.

Самое главное в воспитании мальчика без отца – не опекать его слишком сильно, давая свободу в разумных пределах.

Что касается особенностей воспитания девочки без отца, то роль отца важна для девочки тем, что отношения с папой накладывают отпечаток на все её дальнейшие взаимоотношения с мужчинами. Обесценивание личности отца, постоянный негатив в его адрес могут привести к тому, что будущая женщина потом не сможет найти себе избранника. Отец формирует у девочки самооценку, ощущение себя женщиной, понимание своей красоты и значимости, поэтому важно его отсутствие компенсировать постоянным напоминанием девочке, что она любимая, красивая, милая. Не стоит также ограждать девочку от мужского общества, в будущем это приведёт к боязни мужского пола или его обесцениванию. В неполной семье девочке сложно сформировать у себя образ правильного домашнего очага, поэтому необходимо рассказывать ей о том, как складываются отношения между мужчиной и женщиной в семье, но при этом не стоит идеализировать брак.

Постарайтесь привнести в окружение девочки образец мужского поведения. Как и в случае с мальчиками это могут быть дедушка, дядя, старший брат, тренер и т.д.

Как видим, влияние отца как мужчины на процесс воспитания и формирования личности ребёнка велико и значимо.

И ещё немного о том, как себя вести при воспитании ребёнка без отца.

В первую очередь, совет касается женщин. Нужно полюбить себя и принять себя такой, какая вы есть. Нельзя заниматься самобичеванием и обвинять себя в том, что отец ребёнка ушёл от вас. Для этого могло быть много причин и не обязательно вы – это одна из них.

Если отношения с отцом ребёнка закончились плохо, не стоит переносить это на ребёнка: он ни в чём не виноват, и не отвечает за ошибки родителей.

Не живите прошлым. Так можно пропустить много важных, интересных и счастливых моментов в настоящем.

Не плачьте при ребёнке и не жалейте его за то, что он растёт без отца. Впоследствии у ребёнка может развиться комплекс вины, когда он будет считать себя виноватым в том, что папа ушёл.

Проводите с ребёнком достаточное количество времени, чтобы он не чувствовал себя одиноким и брошенным: гуляйте, играйте, разговаривайте.

Не осуждайте отца в присутствии ребёнка, это может обесценить образ мужчины как такового в глазах ребёнка.

Любите ребёнка, не забывайте говорить ему о своей любви, не забывайте обнимать ребёнка (ведь семь объятий в сутки никто не отменял).

Разрыв отношений по любым причинам – это, безусловно, сложный психологический момент. Но как бы ни было трудно сейчас, важно помнить, что жизнь продолжается. Многие психологи сходятся во мнении, что идеальный выход для женщины в такой ситуации – не зацикливаться на детях и не срывать на них зло за неудавшуюся личную драму, а попытаться строить нормальную, полноценную и гармоничную жизнь, в которой обязательно всё сложится хорошо!

## Глыбоцкая "Кропка адліку" адзначыла сваё 17-годдзе

Такую назву носіць група Ананімных Алкаголікаў, якая ўзнікла ў красавіку 2004 года.

На Глыбоччыне пачаўся рух АА па праграме "12 крокаў". З той пары людзі, якія хочуць пазбавіцца залежнасці, збіраюцца пры парафіі Святой Тройцы кожную нядзелю.

Усяго праз групу прайшло каля сямі дзясяткаў чалавек: частка засталася ў групе, нехта прыйшоў і пайшоў. Удзельнікі радыя таму, што частцы людзей, што пакутуюць на залежнасць ад алкаголю, удалося дапамагчы весці цвярозы лад жыцця.

Як кажуць удзельнікі гэтага руху, усе алкаголікі з часам кідаюць піць, але некаторыя робяць гэта яшчэ пры жыцці.

На ўрачыстасць у Глыбокае прыбылі ўдзельнікі рухаў АА і Ал-Анон (аб'ядноўвае сваякоў тых, хто пакутуе на залежнасць) з Наваполацка. Яны падзяліліся сведчаннямі са свайго жыцця.

Падрабязней пра сустрэчу чытайце на ***Catholicnews.by***

# “Каб мы былі падобныя да святога Мікалая”: у Дзеркаўшчыне прайшоў парафіяльны адпуст



**9 мая дзеркаўшчынская святыня была цалкам запоўненая вернікамі. На ўрачыстасць прыбылі кс. Яўген Шымановіч з Глыбокага, дыякан Віктар Мялешка OFMConv, а. Вальдэмар Куява OFMConv з Удзела, кс. Віталь Бяленік з Падсвілля, кс. Дзмітрый Рацько з Празарокаў, кс. Андрэй Таўрук з Канстанцінава.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

На пачатку святой Імшы ўсіх прывітаў вікарый з Глыбокага кс. Яўген, які прыязджае сюды з пастырскай паслугай, і запрасіў кс. Віталя Бяленіка цэлебраваць урачыстую Імшу.

Найперш кс. Віталь адзначыў, што Бог нас любіць і стварыў чалавека на сваё падабенства. “Бог – гэта і ёсць любоў, і ў гэтай любові мы падобныя да Бога,” – падкрэсліў святар.

Слова да вернікаў прамовіў дыякан Віктар, які хутка ўжо прыме святарскае пасвячэнне. Сваё казанне будучы святар прысвяціў тэме кахання і любові ў больш шырокім сэнсе. “Любоў – гэта Езус,” – канстатаваў дыякан на пачатку гамілії і далей прывёў шэраг доказаў гэтага. Ён падкрэсліў, што слова мае малое значэнне, калі не падмацоўваецца дзеяннем.

Першае, што характарызуе любоў, – гэта прыхільнасць да аб’екта любові. “Бог нас так палюбіў, што стварыў на сваё падабенства, – адзначыў дыякан. – Ён застаўся з намі назаўсёды ў Эўхарыстыі”.

Яшчэ адным доказам Божай любові ёсць тое, што Бог даў чалавеку свабодную волю, і чалавек можа сам распараджацца сваім жыццём. Можа хадзіць у касцёл, а можа быць і бязбожнікам.

"Езус таксама даў нам Марыю, Сваю Маці, Якая з’яўляецца нашай апякункай і заступніцай, – падкрэсліў прамоўца. – Святы Мікалай, успамін якога адзначаецца ў гэты дзень, таксама можа служыць прыкладам хрысціянскай любові".

Напрыканцы гамілії дыякан Віктар пажадаў, каб усе мы пасля гэтай Імшы маглі паставіць сябе на месца святога Мікалая і паступаць так, як ён.

Падчас Імшы вернікі памаліліся сярод іншага за душы загінулых у Другой сусветнай вайне, а таксама за тое, каб больш на свеце не было такіх кровапралітных войнаў.

На заканчэнне набажэнства вернікі памаліліся Літаніяй да святога Мікалая і прайшлі працэсіяй вакол святыні. А закончылася ўрачыстасць спевам гімна “Цябе, Бога, праслаўляем” і блаславеннем Найсвяцейшым Сакрамантам.

Трэба адзначыць, што культ святога Мікалая прысутнічаў на гэтых землях здаўна. Уніяцкія вернікі, якіх у свой час на тэрыторыі парафіі было большасць, шанавалі святога. Калі царскі ўрад скасаваў унію, культ святога перайшоў да праваслаўных. Пакуль дзейнічаў праваслаўны храм у вёсцы Завараты да канца 50-х гадоў XX стагоддзя, тут таксама адбываўся фэст на Дзень святога Мікалая.

Відаць, культ гэтага святога ўзялі да сябе католікі пры стварэнні тут рымска-каталіцкай парафіі. Дарэчы, нават пасля закрыцця касцёла ў Дзеркаўшчыне ў 1963 годзе Дзень святога Мікалая ў парафіі ўсё роўна святкаваўся. Гэтаму дапамагала і тое, што ў 1965 годзе савецкае кіраўніцтва зрабіла Дзень перамогі выхадным днём.

У 1988 годзе вернікі распачалі намаганні, каб вярнуць сваю святыню. Вясной таго ж года ксёндз Уладзіслаў Звавальнюк цэлебраваў святую Імшу ў інтэнцыі вяртання храма каля сценаў разбуранага касцёла. На гэта набажэнства сабралася шмат вернікаў з Дзеркаўшчыны і навакольных вёсак.

У 1989 годзе напаўразбураны храм вярнулі парафіі. Пачаліся працы па яго аднаўленню. Нягледзячы на цяжкасці з будматэрыяламі і фінансамі ў той няпросты час, святыню аднавілі за дзесяць месяцаў. Гэта сталася дзякуючы вялікай самаахвярнасці і энтузіязму людзей.

15 мая 1990 года арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч асвяціў аднoўлены касцёл. Тады ж вернікі парафіі адрадзілі таксама традыцыю фэстаў на святога Мікалая.



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета “Каталіцкі Веснік”*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар’янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Адзін дзень з жыцця семінарыста-першакурсніка

**Тры гады таму ў беларускіх каталіцкіх семінарыях быў уведзены прапедэўтычны (падрыхтоўчы) курс у фармацe першага года навучання. “Каталіцкі Веснік” наведаў клерыкаў-першакурснікаў і даведаўся, як жыве і функцыянуе семінарыя.**



Падрыхтоўчы год з сядзібай у Мінску лічыцца першым годам Вышэйшай Духоўнай семінарыі ў Гродне і Пінску. Калі казаць агулам, гэта такі падрыхтоўчы курс, які дазваляе хлопцам пазнаць асноўныя праўды веры, катэхізіс, каб далей распачаць семінарыйную фармацыю. Гэты год дазваляе распазнаць юнакам, ці той гэта шлях, які яны абралі.

## Пра семінарыйнае кіраўніцтва

Сёлета на падрыхтоўчым курсе навучаецца восем семінарыстаў, якімі апякуюцца два святары. Так званай пасады рэктара тут няма. Ксёндз Павел Эйсмант – куратар першага курса. Яго задача – дапамагаць хлопцам у справах дысцыпліны, прызначаць заняткі, лекцыі, дамаўляцца з выкладчыкамі. Таксама святар з’яўляецца эканомам і займаецца рознымі справамі быту, фінансавымі пытаннямі.

Ксёндз Алег Пятрашка – духоўны айцец клерыкаў. Ён клапоціцца пра духоўнае станенне і ўзрастанне юнакоў, размаўляе з семінарыстамі на розныя актуальныя тэмы, праводзіць канферэнцыі духоўнага айца, дбае пра споведзь, якая праходзіць па пятніцах. У гэты дзень у семінарыю прыязджаюць таксама іншыя святары-спаведнікі.

## Пра малітву і духоўнасць

Асноўны акцэнт у семінарыі ставіцца на духоўныя, рэлігійныя веды, шмат увагі звяртаецца на пазнанне Божага слова. Біблія і сакраманты тут, безумоўна, на першым месцы. Па серадах праходзіць Біблійнае кола, дзе кожны клерык мае магчымасць выказацца, падзяліцца пэўным фрагментам або выказваннем.

Пасля вячэрняй малітвы і біблійнага разважання ў семінарыі захоўваецца цішыня. А 22.30 хлопцы ўжо адпачываюць. На працягу ночы Божае слова дзейнічае. Устаюць клерыкі а 7-й гадзіне раніцы і ідуць на малітву. Адразу пасля яе зноў вяртаюцца да таго біблійнага ўрыўка, што і ўвечары. Такім чынам пэўны фрагмент бачыцца з розных бакоў, а юнакі вучацца разважаць.

Дарэчы, ранішняя малітва, на якой я прысутнічала, адбывалася на польскай мове. Аказалася, што два дні на тыдзень у семінарыі польскамоўныя. Па словах куратара першага курса кс. Паўла Эйсманта, такая практыка патрэбная для таго, каб будучыя святары ў далейшым свабодна маглі маліцца на польскай мове або прамаўляць Слова Божае. Бо, як вядома, у шматлікіх парафіях краіны ёсць польскамоўныя Імшы.

Шмат часу тут адводзіцца для індывідуальнай малітвы. Асабліва ў суботу і нядзелю. У памяшканні, акрамя асноўнай капліцы, ёсць невялічкая капліччка для адарацыі, якая з’явілася ў гэтым годзе. Сюды клерыкі могуць прыходзіць у любы момант на асабістую малітву. Калі я ўвайшла туды, там нікога не было – юнакі знаходзіліся на занятках. Аднак ксёндз Алег узгадваў дні, калі там не бывала свабоднага месца.

## Пра адказ на заклік Бога

Пасля святой Імшы, якая адпраўляецца ў семінарыі кожны дзень, я крыху паразмаўляла з клерыкамі, якія падзяліліся гісторыямі свайго паклікання.

Клерыку Давіду Венцэку ўжо сорак гадоў. Пра сябе ён распавядае так: “Я нарадзіўся ў Польшчы, а трынаццаць гадоў назад прыехаў у Беларусь як валанцёр. Тут і застаўся. Жаданне пайсці ў семінарыю ў мяне ўзнікла даўно. Але некаторы час былі пэўныя перашкоды. А ў мінулым годзе я даведаўся, што ёсць магчымасць сюды паступіць на першы курс”.

Сямнаццацігадовы семінарыст Павел Догель родам з Ліды, з парафіі Божай Міласэрнасці. Сваё цвёрдае “так” юнак сказаў Богу ў санктуарыі Езуса Журботнага ў Росі, пасля адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту і начнога чування.

Аляксандр Каляга, якому дваццаць два гады, паходзіць з Глыбокага. Юнак распавядае: “Пасля школы я паступіў у медыцынскі ўніверсітэт. Там правучыўся тры з паловай гады. Аднак потым адчуў, што Бог мяне кліча. Гэта насамрэч такое цікавае, “райскае” пачуццё. Свае думкі пра семінарыю пасля навучання медыцыне я б назваў “тахікардыяй”, бо, калі адчуў жаданне вучыцца на святара, моцна білася сэрца і думкі пра пакліканне больш мяне не пакідалі”.

## Пра побыт і абавязкі

У семінарыі кожны адказвае за пэўную функцыю. Сярод юнакоў вызначаны дэкан курса, закрыстыянін, арганіст, цырымонімайстар. Хтосьці з’яўляецца куратарам хворых, а нехта адказвае за рамонтныя працы, сталовую, дэкарацыі, спорт… Дарэчы, у вольны час хлопцы ходзяць у трэнажорную залу, якая з’явілася ў мінулым годзе дзякуючы старанням клерыка Аляксея і дапамозе вернікаў, которыя складалі свае ахвяраванні для гэтай мэты. Штосьці таксама было падаравана.

Ставяцца таксама задачы, якія выконваюць клерыкі на працягу тыдня. Напрыклад, лектар чытае рэлігійны тэкст, а кантар спявае псальм. І такіх функцый, за якія адказваюць семінарысты, шмат. Дзякуючы гэтаму ў кожнай сферы наладжаны пэўны парадак. Дарэчы, прыбіраюць семінарыю і свае пакоі хлопцы таксама самі паводле вызначанага графіка. Семінарысты жывуць па двое. Сімвалічна, што кожны з чатырох пакояў мае свайго апекуна – аднаго з чатырох евангелістаў.

А дзявятай гадзіне разам з семінарыстамі мы пайшлі на смачнае сняданне, якое старанна рыхтавала спадарыня Сафія. Усяго клерыкам робяць ежу дзве гаспадыні – Сафія і Любоў, якія дзяжураць па тры дні, жывучы ў семінарыі. У нядзелю юнакі гатуюць самастойна. Бывала, што яны самі пяклі пячэнне, рабілі чабурэкі, запякалі стэйкі. Калі хто з іх хоча прыгатаваць нейкую ежу сам, з гэтым няма праблем.

## Пра навучанне і выкладчыкаў

У семінарыі заняткі праходзяць з панядзелка да пятніцы. І доўжацца ад 9.30 да 13.00. Цяпер семінарысты навучаюцца на другім семестры і здаюць залікі. Усяго ў семінарыі дзве сесіі: зімовая і летняя.

Заняткі па польскай мове, на якіх мне ўдалося паприсутнічаць, распачаліся са знака крыжа і з закліка да Духа Святога аб патрэбных дарах у навучанні.

Выкладчыца польскай мовы спадарыня Марына расказала: “З клерыкамі я працую трэці год. Часта сама вучуся ад іх. І, канешне, тады праводжу “шліфоўку” сваіх методык. Мы вывучаем разам шмат касцельных спеваў, вершы класікаў (Міцкевіч) і таго ж святара Яна Твардоўскага, сучасныя прыпавесці і старадаўнія легенды, гісторыі святаў. Я хачу падзякаваць сваім падапечным за ўсё. А асабліва за агульную малітву. Бо не толькі напачатку і напрыканцы заняткаў мы ўсёй групай становімся тварам да крыжа. Я часта ўспамінаю іх у асабістай малітве і ведаю, што гэта ўзаемна”. Цікава, што сярод выкладчыкаў ёсць як духоўныя, так і свецкія асобы.

Кс. Кірыл Бардонаў выкладае для семінарыстаў дысцыпліну “Уводзіны ў хрысціянства”. Святар распавядае: “Уводзіны ў хрысціянства патрэбныя для таго, каб запоўніць прабелы ў катэхезе. Магчыма, нехта з хлопцаў не меў добрай катэхезы ў парафіі або ў ёй не ўдзельнічаў рэгулярна. Асноўны дапаможнік – Катэхізіс Каталіцкага Касцёла. Падрыхтоўчы курс – час своеасаблівай адаптацыі перад семінарыяй. Бачна, што за некалькі месяцаў навучэнцы раскрываюцца, знікае напружанасць. Праз пандэмію навучанне часта адбываецца дыстанцыйна. Сваю ролю як выкладчыка я бачу ў тым, каб не толькі перадаць веды, але і даць старт зацікаўленасці хлопцаў да самастойнага вывучэння вялікага дактрынальнага і духоўнага багацця Касцёла”.

⇒







⇒ Раз на тыдзень да семінарыстаў прыходзіць вядомая мастачка Надзея Бука. Яна праводзіць з імі майстар-класы па маляванні.

У семінарыі ёсць вялікая бібліятэка. За апошні час яна істотна пашырылася. Плануецца нават дабудаваць стэлажы для кніг. У гэтай справе будзе дапамагаць тата аднаго з клерыкаў. Шмат хто падарыў свае кнігі. Напрыклад, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, біскуп Казімір Велікаселец, ксёндз-прэлат Андрэй Стацкевіч. Многае таксама дакупляецца. Святары заўсёды стараюцца хутка набыць усе апошнія навінкі для семінарыі.

## Пра падарожжы і канікулы

Пасля заканчэння навучання, пасля сесіі на запрашэнне біскупа Алега Буткевіча семінарысты разам паедуць у Віцебск на супольны апачынак – "маёўку". Летам клерыкаў чакае традыцыйная практыка і дапамога пры Гродзенскай семінарыі, а таксама канікулы і пілігрымкі, адпачынак у бацькоўскім доме.

У 2018 годзе семінарысты шмат падарожнічалі, былі нават за мяжой. Аднак праз пандэмію цяпер выездаў стала менш. Сёлета клерыкі наведалі Докшыцы, Паставы, Мядзел і Нарач. Паглядзелі, як жывуць браты ў законным манаскім жыцці. На адпуст таксама былі ў Свіры. Плануюць яшчэ наведаць месца мучаніцтва святога Андрэя Баболі, які прыняў пакутніцкую смерць у Янаве Палескім (сёння – Іванава). Тады ж у іх будзе магчымасць пераначаваць у будынку Пінскай семінарыі.

## Пра адвагу і Божае запрашэнне

На развітанне духоўны айцец семінарыі звярнуўся з заклікам да хлопцаў, якія маюць жаданне пайсці ў семінарыю: "Для таго, хто, адкрыў у сабе голас пакліканне, галоўнае – не баяцца, быць адважным. Бо часта нам не хапае адвагі, каб пайсці за гэтым голасам. Гэта, напэўна, радыкальная змена жыцця. Але разам з тым і прыгожае запрашэнне ад Бога для таго, каб рэалізаваць сябе на тым шляху, які Гоcпад падрыхтаваў для мяне, калі я яшчэ не нарадзіўся. Таму ўсім юнакам, якія чуюць гэты голас, раю не баяцца і цалкам давершыцца Богу. Прыйсці і папоўніць Касцёл Беларусі шэрагам прыгожых святароў будучыні, якія будуць абвяшчаць Божае слова і несці праз сваё служэнне вызваленне ад граху і зла, якое сёння так атакуе нашу грамадскасць".

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***





# Каталіцкая тэрміналогія

**Новы тэст "Каталіцкага Весніка" прапануе праверыць, ці добра вы ведаеце каталіцкую тэрміналогію.**

**Праверце, наколькі добра вы разумееце значэнне слоў, якія чуеце ў Касцёле. Прайдзіце тэст!**



**1** Рэлігійнае вучэнне пра канец свету, сэнс і заканчэнне зямной гісторыі, – гэта:



**А.** Хрысталогія
**Б.** Эсхаталогія
**В.** Літургіка

**2** Што такое "індульгенцыя"?



**А.** Дараванне грахоў за грошы.
**Б.** Дараванне асабліва цяжкіх грахоў.
**В.** Вызваленне ад часовай кары за грахі, у якіх грэшнік ужо пакаяўся.

**3** Прылічэнне да ліку святых называецца:



**А.** Беатыфікацыя
**Б.** Кананізацыя
**В.** Настрыфікацыя

**4** Ганаровы тытул, які Папа надае некаторым святарам за асаблівыя заслугі, гэта:



**А.** Акаліт
**Б.** Прэлат
**В.** Прэзбітар

**5** Пагадненне, дамова паміж Святым Пасадам (Ватыканам) і ўрадам пэўнай дзяржавы, якая рэгулюе іх адносіны і вызначае становішча Каталіцкага Касцёла, яго правы і прывілеі, – гэта:



**А.** Канкардат
**Б.** Запавет
**В.** Мемарандум

**6** Сход кардыналаў, якім кіруе Папа і які ён склікае па сваёй волі для супрацоўніцтва ў справе кіравання Сусветным Касцёлам, называецца:



**А.** Канклаў
**Б.** Кансісторый
**В.** Сусветны Сабор

**7** Што такое "Віятык"?



**А.** Святая Камунія, якую прымае цяжка хворы чалавек разам з сакрамантам намашчэння хворых.
**Б.** Сасуд, у якім захоўваецца алей хрызма.
**В.** Посуд, у якім пераносяць Святую Камунію.

**8** Стула – гэта:



**А.** Галоўнае крэсла ў катэдральным касцёле, на якім сядзіць біскуп.
**Б.** Галоўнае крэсла ў касцёле, на якім сядзіць галоўны цэлебрант.
**В.** Частка літургічнай вопраткі, якую святар ускладае на шыю пад арнат для цэлебрацыі св. Імшы, альбо без арнату для здзяйснення іншых сакрамантаў ці літургічных паслугаў, знак святарскай улады.

**9** Хто такі "нунцый"?



**А.** Дыпламатычны прадстаўнік Ватыкана.
**Б.** Дзяржаўны сакратар Ватыкана.
**В.** Сакратар Папы Рымскага.

**10** Як называецца другое прыйсце Хрыста?



**А.** Армагедон
**Б.** Парузія
**В.** Аджорнамэнта

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на старонцы 16**

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.
Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00.
Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

## Пакой для малітвы

у Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнства, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны чацвер з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# Каляндар на чэрвень

Чэрвень прысвечаны Сэрцу Езуса. Набажэнствы на ўшанаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса маюць багатую гісторыю, карані якой ідуць з канца XIX ст. Чэрвеньскае набажэнства – гэта малітоўная практыка, праз якую мы хочам выказаць нашую ўдзячнасць за тую вялікую любоў, каторай нас адорвае Езус Хрыстус. Яно складаецца з адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту і Літаніі да Найсвяцейшага Сэрца Езуса.



## 1 чэрвеня – успамін св. Юстына, мучаніка

Юстын-Мучанік (таксама вядомы як святы Юстын; каля 100 — 165 г. н.э.) – адзін з першых хрысціянскіх апалагетаў, разглядаецца ў якасці галоўнага тлумачальніка тэорыі Логаса ў другім стагоддзі. Ён быў закатаваны разам з некаторымі са сваіх вучняў і лічыцца святым Рыма-каталіцкай, Англіканскай і Усходняй праваслаўнай царквою.

Вядомы таксама як Юстын-філосаф. Нарадзіўся каля 100 г. у Палесціне ў горадзе Флавія Неапаліс (старажытны Сыхем). Паходзіў з паганскай сям'і рымскіх арыстакратаў. Пасля знаёмства з рознымі філасофскімі вучэннямі таго часу (стаіцызм, арыстатэлізм, платанізм) звярнуўся да хрысціянства і каля 130 г. у Эфесе прыняў хрост.

У XVII ст. частка рэліквій святога як дар Папы Бэнэдыкта XIV была прывезеная ў Беларусь і змешчаная ў мядзельскім касцёле. У XIX ст. рэліквію перанеслі ў мосарскі касцёл, дзе яна знаходзіцца да гэтага часу, прыцягваючы шматлікіх пілігрымаў, асабліва ў дні парафіяльнага адпусту на ўрачыстасць Нараджэння св. Яна Хрысціцеля (24 чэрвеня і найбліжэйшая нядзеля).



## 3 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста

Яна адзначаецца ў чацвер пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы як напамін пра ўстанаўленне сакраманту Эўхарыстыі ў Вялікі чацвер.

Распаўсюджаная назва ўрачыстасці Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста – Божае Цела. У яе цэлебрацыі Касцёл складае падзяку Збаўцу за дар Найсвяцейшага Сакраманту, у якім Ён сам прабывае са сваім народам.

У гэты дзень або ў наступную пасля яго нядзелю адбываецца працэсія, у якой Найсвяцейшы Сакрамант з пашанаю нясуць па вуліцах гарадоў і вёсак.

Святкаванне Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста бярэ свой пачатак з XIII стагоддзя. Ініцыятаркай святкавання стала святая Юліяна з Карніліі. У 1245 годзе ў кляштары аўгусцінак у Монт-Карніліён, паблізу Льежа (Бельгія), яна была ўдастоена аб'яўлення Езуса Хрыста, у якім Хрыстус папрасіў пра заснаванне асобнага свята ў гонар Найсвяцейшай Эўхарыстыі.

Непасрэдным штуршком для ўстанаўлення свята стаў цуд, які адбыўся ў Бальсэне. Калі там святар цэлебраваў святую Імшу, то пасля ўзвышэння паставіў келіх так няўдала, што некалькі кропляў крыві Хрыста пралілося на карпарал. Святар заўважыў, як віно – сімвал крыві Збаўцы – ператвараецца ў сапраўдную Кроў Хрыста. Папа Ян XXII пашырыў свята Corpus Christi на ўвесь Каталіцкі Касцёл, а з часоў Папы Урбана VI яно з'яўляецца адным з галоўных святаў літургічнага года Касцёла.



## 11 чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса

У Каталіцкім Касцёле гэта свята, прысвечанае ўшанаванню Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста, адзначаецца ў пятніцу, на восьмы дзень пасля ўрачыстасці Божага Цела Хрыста і на дванаццаты дзень пасля Найсвяцейшай Тройцы. Сэрца Хрыста з'яўляецца сімвалам любові Бога да людзей. Такім чынам, яно адлюстроўвае падзяку Богу за Яго любоў і дараванае збаўленне.

Ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса пасля прыняцця святой Камуніі чытаецца малітва, у якой выказваецца просьба, каб Сэрца Езуса, у якім свет адкрывае сапраўдную прыроду Бога, навучыла нас бачыць Хрыста ва ўсіх людзях.

У сучасным касцельным календары Найсвяцейшаму Сэрцу Езуса, акрамя спецыяльнай урачыстасці, прысвечана кожная пятніца, а таксама ўвесь месяц чэрвень.



## 12 чэрвеня – успамін Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі

Успамін Беззаганнага Сэрца Марыі – свята, прысвечанае ўшанаванню Беззаганнага Сэрца Багародзіцы. Адзначаецца ў суботу, на наступны дзень пасля ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса, на дзявяты дзень пасля Божага Цела і на трынаццаты пасля Найсвяцейшай Тройцы. Сэрца Марыі з'яўляецца сімвалам любові Багародзіцы да людзей, а таксама знакам міласэрнасці і спачування да чалавецтва, за выратаванне якога яна няспынна ўзносіць малітву.

На ўвесь Касцёл распаўсюдзіў святкаванне Беззаганнага Сэрца Марыі Папа Пій XII 4 мая 1944 года. Але літургічная рэформа пасля Другога Ватыканскага Сабору перанесла яго на суботу пасля ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса.



## 24 чэрвеня – урачыстасць Нараджэння Святога Яна Хрысціцеля

Святы Ян Хрысціцель з'яўляецца апошнім старазапаветным пракокам, які сваім жыццём закрывае эпоху Старога Запавету і выступае прарокам новай фармацыі – Новага Запавету. Ён нарадзіўся на паўгода раней за Хрыста і ў маладым узросце адасобіўся ў Юдэйскай пустыні, дзе вёў вельмі строгае аскетычнае жыццё. Там ён адчуў пакліканне абвяшчаць набліжэнне Божага Валадарства і пачаў удзяляць хрост пакаяння ў Ярдане. Вакол яго сабралася супольнасць вучняў, да якой спачатку належалі і некаторыя з апосталаў (Андрэй, Ян). Прыняць ад яго хрост прыйшоў Сам Езус. Як і любы прарок, св. Ян Хрысціцель сустракаў на сваім жыццёвым шляху перашкоды, абыякавасць і варожасць.



## 29 чэрвеня – урачыстасць Святых Пятра і Паўла, апосталаў

Святых апосталаў Пятра і Паўла Касцёл праслаўляе ў адзін дзень. Нагадваючы вернікам аб розных характарах і лёсах, розных шляхах да Бога, аднак аднолькавым для абодвух учынкаў: яны абвяшчалі Евангелле ўсяму свету, данесілі да людзей праўду пра Уваскрослага і Жывога Хрыста.

Апостал Пётр (першапачаткова яго называлі Сымон) першым з дванаццаці апосталаў паверыў у Хрыста як Сына Божага. Збаўца змяніў яго імя на "Пётр", што значыць – камень, скала, на якой будзе збудавана супольнасць Касцёла. Езус выслаў Пятра да людзей, каб ён абвяшчаў Божае Валадарства, аздараўляў хворых, уваскрашаў памерлых, ачышчаў пракажоных, выганяў злых духаў. Святы Пётр з'яўляецца нябесным апекуном дыяцэзіі ў Рыме, лічыцца заступнікам многіх гарадоў, пад яго апекай знаходзяцца кавалі, будаўнікі, муляры, рыбакі і інш.

Апостал Павел (першапачаткова Саул), будучы фарысеем, быў заўзятым ворагам Касцёла. Аднак аднойчы, у час вандроўкі, святло з неба асвятліла яго. Ён пачуў голас Пана. Паверыўшы ў Езуса, ён здзейсніў некалькі апостальскіх падарожжаў і заснаваў хрысціянскія супольнасці ў многіх рэгіёнах Міжземнамор'я. Праз руплівасць жыццё святога не раз было ў небяспецы.

Пакутніцкую смерць абодва апосталы прынялі ў адзін дзень, з розніцай у год. Для каталіцкага свету яны з'яўляюцца прыкладам цвёрдасці, розуму, пакаяння і веры.

# Пра Першую Камунію, дзіцячую ўпартасць і бацькоўскі прыклад: размова з Кацярынай Раюнец

**По традыцыі ў маі дзеці приступаюць да Першай святой Камуніі. Гледзячы на іх, шматлікія дарослыя таксама прыпамінаюць свой святочны дзень.**

Сваёй першакамунійнай гісторыяй і сведчаннем веры з "Каталіцкім Веснікам" падзялілася Кацярына Раюнец.

**– Кацярына, раскажыце крыху пра тое, дзе Вы нарадзіліся? Вашыя бацькі былі вернікамі?**

– Я нарадзілася ў Барысаве. Тата з мамай не былі вернікамі, але хрысціліся ў Праваслаўнай Царкве. З дзяцінства памятаю, што маці ўвесь час шукала нешта духоўнае. Чытала розную пратэстанцкую і праваслаўную літаратуру, хацела знайці нейкага старца. Цікава: не будучы верніцай, яна штодня чытала Біблію. Маці хадзіла на служэнні то да праваслаўных, то да пратэстантаў. Але аднойчы выпадкова зайшла ў касцёл. Там сустрэла айца Юзафа Пятушку, які стаў для яе духоўным настаўнікам і натхніў на шлюб у касцёле. Яна ўгаварыла тату і пачалася падрыхтоўка.

**– Калі Вы ўпершыню патрапілі ў касцёл?**

– Першы раз я апынулася ў касцёле на шлюбе маіх бацькоў. Нас са старэйшым братам прыгожа апранулі і пасадзілі на заднія лаўкі. Мы абсалютна не разумелі, што там адбываецца. Памятаю, як напрыканцы людзі пачалі выстрайвацца ў шэраг да Камуніі. Я тады не ведала, што гэта такое. Калі скончылася ўрачыстасць, я спытала, куды хадзілі людзі. Мама растлумачыла, што там адбывалася. Я сказала, што таксама так хачу. Мяне адгаворвалі, сцвярджаючы, што вельмі доўга трэба хадзіць на заняткі, рыхтавацца.

**– Адгаварылі?**

– Не, бо я была вельмі ўпартай. Тады мы паклікалі сястру-эўхарыстку, і маме давялося запісаць мяне на катэхезу. На той момант мне было дзесяць гадоў. Сама падрыхтоўка доўжылася два гады. Я была стараннай вучаніцай, усё вучыла, рыхтавалася да кожнага тэста. На занятках нам сказалі, што кожную нядзелю трэба хадзіць у касцёл, таму бацькі былі вымушаны хадзіць са мной.

На Імшы я ўбачыла дзіцячы хор. Сказала маме, каб мяне і туды запісалі. Потым далучылася да скаўтаў. Такім чынам, маці не ведала, у што выльецца яе шлюб. Праз маю настойлівасць уся сям'я пачала хадзіць у Касцёл. Калі зараз задумваюся, чаму я так рабіла, то думаю, што, напэўна, гэта было натхненне Святога Духа.

**– А які быў сам дзень Першай Камуніі?**

– У гэты дзень я вельмі хвалявалася. Асабліва памятаю Першую споведзь, калі з лісточка чытала свае грахі. На свята запрасілі шмат гасцей, я прыгожа апранулася. Дарэчы, мой брат таксама прыступаў у той дзень да Першай Камуніі. Праўда, ён рыхтаваўся толькі год, бо пазней за мяне пайшоў вучыцца. Была вельмі вялікая радасць. Хіба больш такога шчаслівага моманту ў той перыяд я не памятаю. Гэтага дня я чакала два гады.

**– Вельмі часта, прыняўшы Першую Камунію, дзеці знікаюць з Касцёла. Які быў Ваш далейшы шлях?**

– Я кожную нядзелю і на святы хадзіла ў касцёл, спявала ў дзіцячым хоры. Пасля пачала іграць на гітары, уступіла ў Федэрацыю скаўтаў Еўропы. Потым распачаліся пілігрымкі ў Росіцу, Будслаў, розныя рэкалекцыі і моладзевыя сустрэчы. Дзесьці з шаснаццаці гадоў я стала дапамагаць сёстрам з дзіцячымі летнікамі, была аніматарам. Усё лета я магла правесці, пераязджаючы з аднаго хрысціянскага дзіцячага летніка ў другі. Потым спявала ў дарослым хоры. Можна сказаць, што мой далейшы духоўны шлях быў няспынным. Я не памятаю такога, каб я пераставала хадзіць у касцёл. Усе самыя яскравыя і цудоўныя ўспаміны звязаны не са школай, не са студэнцкімі гадамі, а менавіта з Касцёлам.



Кацярына з мужам і сынам.

**– Хто для Вас зараз з'яўляецца сапраўдным прыкладам веры?**

– Такім чалавекам зараз для мяне з'яўляецца мой муж. У шматлікіх справах бачна, што ён мае вялікі давер да Бога. Ён часта мне дапамагае нейкімі парадамі, падтрымлівае.

**– А як Вы пазнаёміліся з мужам?**

– Мы пазнаёміліся ў грэка-каталіцкім хоры "Прасфара", калі я прыйшла туды на рэпетыцыю.

**– Якое духоўнае жыццё зараз у Вашай сям'і?**

– Мы з мужам разам ужо шэсць гадоў. У нас ёсць сын Марк, якому два гады і дзевяць месяцаў. Калі я была цяжарная, мы з мужам практыкавалі малітоўнае служэнне ў касцёле і праводзілі малітву праслаўлення. Пасля нараджэння сына мы крыху пабылі дома. Праз некаторы час, калі я нарэшцэ разабралася, як намотваць слінг (перавязь з тканіны для нашэння дзяцей), пачалі ездзіць на Імшу. Мы жылі вельмі далёка, за горадам. Да касцёла трэба было ехаць больш за гадзіну. Але мы не прапускалі ніводнай службы.

Часам бывае складана, бо ў малых дзяцей можа быць розны настрой. Напрыклад, як толькі Марк навучыўся хадзіць, ён увесь час хацеў выйсці пагуляць на двор. У нас з'яўляліся думкі хадзіць на Імшу паасобку. Але потым вырашылі, што вельмі важна, каб дзіця бачыла супольную малітву і мамы, і таты. Тады мы пастанавілі пацярпець. І наша цярпенне дало плён. Марк можа вытрымаць у касцёле нават паўтары гадзіны без ежы, без цацак. Ведае такія адказы, як "Амэн", "Пане змілуйся…", паўтарае за святаром усе словы і жэсты. Расказвае на памяць малітву "Ойча наш". Мы кожны вечар усе разам молімся літанію да Духа Святога, а малітву, што змешчана ў канцы, сын таксама ведае цалкам. Заўсёды разам молімся перад ежай, часам Марк праводзіць малітву, часам мы.

**– А зараз Вы маеце нейкае служэнне ў Касцёле?**

– Так. Зараз мы належым да Таварыства Святой Сям'і з Назарэта.

**– Што б Вы параілі дзецям, якія рыхтуюцца да Першай Камуніі, і іх бацькам?**

– Падаецца, што часта дзяцей аддаюць вучыцца на катэхезу, бо так трэба, або ўжо падышоў неабходны ўзрост. А я б параіла бацькам самім дбаць пра сваё духоўнае жыццё: слухаць катэхезы, наведваць рэкалекцыі, ствараць вакол сябе хрысціянскую супольнасць. І дзеці, бачачы ўсё гэта і гэтым жывучы, у нейкі момант самі пачнуць прагнуць Першай Камуніі. Для іх гэта будзе жаданай падзеяй. Яны будуць вельмі старацца і не знікнуць з Касцёла, прыняўшы сакрамант.

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***

## Маёвае

*Вёсачцы майго юнацтва – Залеські – прысвячаецца*

Вечарэе. Сонейка ўсё ніжэй і ніжэй схіляецца да лесу. Увесь дзень яно сагравала зямлю, дапамагала квітнець кветкам, расці траве, узыходзіць збажыне, праграравала ваду ў рэках і азёрах. І цяпер, здаецца, стаміўшыся ад сваёй нялёгкай працы, ідзе таксама адпачываць.

Па вёсцы, уздымаючы клубы пылу і лёгкі перапалох у дварах, прайшоў статак з поля. Невялікі гоман, бразгаюць даёнкі, і спорныя струмені малака звіняць амаль у кожным двары. Пахне сырадоем. Чуваць ласкавыя галасы гаспадынь у перамовах са сваімі Лысухамі, Кветкамі, Зорачкамі. Нарэшце дзвары заціхаюць. Сонца зайшло, але яшчэ відна будзе доўга. Цішыня.

Але што гэта? З узгорка пасярод вуліцы на скрыжаванні ад высокага, пацямнелага ад часу крыжа даносяцца зладжаныя галасы малітвы, якую прамаўляе даволі вялікі гурт людзей: мужчын, жанчын, дзяцей. Крыж стаіць перад хатай пад вокнамі ў агародчыку. На двары ці на полі нельга стаяць крыжу: там зямля калгасная альбо дзяржаўная. Яна і тут не свая, але як бы трохі і свая. Пад крыжам стаіць столік, засланы бялюткім з карункамі абрусам. На ім – фігурка Маці Божай. А вакол усё застаўлена букетамі кветак. Гронкі бэзу, галінкі язміну, півоніі чырвонай, ружовай, белай. Букеты стаяць на падстаўках і на зямлі і мяняюцца ў залежнасці ад таго, што пачынае цвісці.

Нейкі час гучыць зладжаная шчырая малітва, а потым узлятае ў неба песня, песня-малітва. Узлятае не як трапяткі жаваранак, не як імклівая ластаўка, яна ўзлятае як горды лебедзь над вадой. Песня-малітва ўзлятае спакойна, вольна, рытмічна. Песня-малітва, песня-гімн, песня-ўслаўленне Маці Божай. Услаўленне Наймудрэйшай, Найдаражэйшай, Найцярплівейшай. Услаўленне найпрыгажэйшай Жанчыны на свеце і… просьбы, просьбы, вечныя просьбы грэшнага чалавека.

Zdrowaś Maryja! Bogarodzico!
Błagamy Ciebie Święta Dziewico.
Niech łaska Twoja zawsze nam sprzyja,
Módl się za nami! Zdrowaś Maryja!

Песня гучыць на польскай мове, як і ўсё набажэнства, але яна такая блізкая і зразумелая, так арганічна зліваецца з гэтымі садамі, агародамі, хатамі, клопатамі гэтых людзей, якія яе спяваюць, што нікому ў галаву нават не прыйдзе, нібыта малітвы і песня гучаць на замежнай мове.

Май месяц… Наперадзе цёплае лецейка, прыветнае сонейка, цёплыя дожджыкі. Але каму, як не селяніну, ведаць, што і сонейка бывае злым і пякучым, няшчадна выпальвае зеляніну лугоў, засушвае палеткі збажыны. Ды і дожджык бывае не заўсёды цёплы і лагодны. Можа заліваць агароды і палі. Наляціць хмара з градам, пасячэ ўсё, змесіць з граззю, утопча ў зямлю – і прапала нялёгкая праца селяніна. Прапала надзея на ўраджай, надзея на сытную і бяспечную зіму. Вось і гучыць просьба:

Broń nas od głodu. Zdrowaś Maryja!

А ўсе пажары і навальніцы, ды і войны амаль заўсёды пачыналіся летам. Колькі іх пракацілася па славянскай зямлі!.. Разрабаваныя гарады і вёскі, асірацелыя людзі…

Niech duch niezgody nas nie zabija
Broń nas od wojny. Zdrowaś Maryja!

Кожны вечар пасля цяжкай працы ў апошні месяц вясны перад прыбраным старым крыжам гучыць малітва і высока ўзлятае песня – чыстая, светлая і такая шчырая, што, здаецца, ніяк немагчыма не выканаць просьбы гэтых людзей.

Прайшло паўвека, але я памятаю тых людзей, якія не дзеля моды, не напаказ у цяжкія часы ваяўнічага атэізму маліліся, наведвалі храмы і прасілі Бога аб вольнай часіне, калі не для дзяцей, то хаця б для ўнукаў.

***Альгіна Булах***

## Хвала Хрысту!

*14 мая – Дзень нараджэння **ксяндза Мікалая Ціхановіча**, а 19 мая ён адзначыў дваццатую гадавіну святарскага пасвячэння.*

*Шаноўны ксёндз Мікалай! Прыміце наша шчырае віншаванне з гэтай нагоды!*

*Дваццаць гадоў святарства,*
*Аддадзеных Богу і людзям!*
*Дваццаць гадоў шчаслівых,*
*Няхай яшчэ шмат іх будзе!*



*Няхай Пан Бог дабраслаўляе*
*Далейшы шлях святарскі,*
*Каб кожны дзень спазналі Вы*
*Шмат Божай ласкі!*




*Нязломнай моцы духа*
*Жадаем Вам ад сэрца!*
*Хай міласэрнасць Божая*
*На Вас шчодра пральецца!*

*Хай Хрыстус за Сабой вядзе,*
*Да сэрца ціха прамаўляе!*
*І свой Вам дорыць супакой,*
*І мудрасцю Вас надзяляе!*

*Марыя, Маці святароў,*
*Няхай апекай атуляе!*

*Вясна загрукатала ў дзверы глыбоцкага касцёла, апавяшчаючы, што на вуліцы квітнее самы прыгожы месяц года – май. У гэты найбольш далікатны месяц у годзе, Госпад паслаў нам у свет чалавека прыгожай душы, ксяндза Мікалая, чалавека моцнага духам, дысцыплінаванага, загартаванага.*

*"Хто сябе даверыць Богу, той адновіць сілы. Атрымае арліныя крылы."*

*Можна параўнаць нашага пробашча з гэтай моцнай птушкай, якая аберагае нас, парафіян, і не толькі нас, і тады ў сэрцах знікае страх і сумневы, і сэрцы напаўняе Божы супакой.*

*Чалавеку які цалкам давярае Богу, давяраюць і людзі, чалавеку які ідзе за Хрыстом не збочваючы, без кампрамісаў, які кіруецца Божай праўдай. Мы, авечкі, якія слухаюць голас свайго пастыра.*

*Ад сэрца ўдзячны Богу за дар служэння, за аднаўленне нашай святыні, але яшчэ больш удзячны за аднаўленне духоўных святынь у нашых сэрцах.*

*Няхай Божая міласэрнасць спадарожнічае нашаму шаноўнаму пробашчу Мікалаю, а сэрца будзе настолькі паяднанае з Хрыстом, што гэтай моцы хопіць на ўсе выпрабаванні сённяшняга часу.*

***З пашанай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Віншую!

*Шчыра віншую дарагога **сына-святара Мікалая Ціхановіча** з нагоды дня нараджэння (14 мая) і 20-й гадавіны прэзбітарскага пасвячэння (19 мая)!*

*Жадаю, каб промень Божай ласкі заўсёды ззяў над Тваёй галавой, каб жыццё было напоўненае малітвай і дабрынёй! Няхай вера ўзрастае кожны дзень, надзея ніколі не пакідае сэрца, а любоў квітнее ў душы, адорваючы ўсіх цеплынёй!*

*Няхай дарога, якую Ты выбраў, будзе шчаслівай і добрай, каб з радасцю мог служыць Богу і людзям, а зярняты, якія Ты засейваеш на даручанай ніве, хай заўсёды прарастаюць і прыносяць шчодры плён! Няхай Дух Святы асвятліць кожны дзень святарскага служэння, каб разам з парафіянамі вы маглі крочыць па Божым шляху да святасці. Няхай Езус заўсёды будзе Тваім Сябрам, а Багародзіца з любоўю прытуляе да сэрца!*

***Твая мама***

## Паважаны ксёндз Мікалай Ціхановіч!

*Віншую Вас з Днём нараджэння і 20-годдзем святарства!*

*Калі Вы прыязджаеце на сваю радзіму, вернікі нашай парафіі заўсёды імкнуцца да Вас! Усіх уражвае Ваша далікатнасць, добразычлівасць, заўсёды лагодная ўсмешка на твары, уменне выслухаць чалавека, даць яму мудрую параду.*

*Жадаю Вам моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова! Няхай Міласэрны Бог, Які ўказаў Вам шлях да святарства, вядзе Вас праз усё жыццё і дапамагае пераадольваць цяжкасці! Жадаю, каб Бог шчодра ўзнагародзіў Вас за нялёгкую працу і благаславіў на нястомнае служэнне Касцёлу і людзям!*

***Першая Ваша настаўніца – Алена Рыгораўна Більмон***

## Хвала Хрысту!



*Амаль год таму вернікі Дрысвяцкай парафіі пазнаёміліся са **святаром Іванам Кароткіным**. Ён адразу пакарыў сэрцы парафіян сваёй адметнай, непаўторнай харызмай, чароўнай усмешкай, добразычлівасцю. 3 мая ксёндз Іван адзначыў чарговую гадавіну святарскага пасвячэння.*

*Ад шчырага сэрца жадаем Вам, ксёндз Іван, дароў Духа Святога, Божай апекі, моцы духу ў нялёгкай справе служэння Богу і людзям! Няхай добры Бог і надалей дапамагае Вам ва ўсіх справах і ўзнагародзіць за добрае, шчырае сэрца, за павагу да кожнага чалавека! Няхай Маці Божая ахіне Вас сваёй любоўю і апекай, напоўніць радасцю кожны дзень Вашага няпростага служэння!*

*Жадаем Вам натхнення ў штодзённых справах, моцы і мудрасці ў выпрабаваннях, добрага здароўя! Атуляем Вас любоўю і штодзённай малітвай!*

*Шаноўны ксёндз Іван! Разам з віншаваннем прыміце ад усёй нашай парафіі велізарную ўдзячнасць за вялікі давер да сваіх вернікаў, за тое, што сваім прыкладам Вы запальваеце агонь любові да Айца Нябеснага, за павагу да нашай Радзімы, за дасканалае валоданне беларускай мовай! Перад такой шчырай беларускасцю святара міжволі ўзнікае жаданне размаўляць на роднай мове!*

*Спадзяёмся на выкананне Вашых планаў і задумаў наконт духоўнага ўзрастання нашай парафіі.*

*Гонар і хвала бацькам нашага любага ў Хрысце Пану ксяндза за тое, што іх жыццёвая ніва дала добры плён!*

***Вернікі дрысвяцкага касцёла (Браслаўскі р-н)***

## Хвала Хрысту!



*Віншуем шаноўнага **ксяндза Эдварда Нарадоўскага** з гадавінай святарскага пасвячэння (1 мая) і Днём нараджэння (26 мая)!*

*Жадаем шматлікіх Божых ласкаў на святарскім шляху! Няхай Святы Дух няспынна асвятляе і насычае сэрца радасцю і супакоем, а Найсвяцейшая Маці заўсёды дапамагае і апякуецца Вамі!*

*Шчыра дзякуем Вам, што Вы заўсёды побач з вернікамі, дапамагаеце з малітваю перажываць іх цяжкасці!*

*Святасці і плённага святарскага служэння Вам, паважаны ксёндз Эдвард!*

***Ад імя вернікаў парафіі Маці Божай Ласкавай – апостальскі рух "Маргарытка"***

## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем **ксяндза Яўгена Шымановіча** з імянінамі (21 мая) і гадавінай святарскага пасвячэння (23 мая)!*

*Жадаем Вам, ксёндз Яўген, заўсёды адчуваць моцную сувязь з Езусам Хрыстом, Які паклікаў Вас да святарскага служэння! Няхай Ваш святарскі шлях будзе плённым і шчаслівым, а Пан Бог хай заўсёды дае патрэбныя ласкі! Жадаем апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і нябеснага Апекуна!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Віншуем!

*13 мая адзначыла Дзень народзінаў **сястра Антонія**, якая працуе ў нашай парафіі.*

*З гэтай нагоды праз газету мы хацелі б павіншаваць нашую дарагую сястру і выказаць ёй падзяку і найлепшыя пажаданні!*

*Дарагая сястра! Дзякуючы Вашай усмешцы і аптымістычнаму характару ў нашай парафіі заўсёды пануюць цяпло і радасць! У гэты цудоўны дзень хочацца пажадаць Вам пранесці свой унутраны свет праз усё жыццё, ярка гарэць, саграваючы сваім цяплом і ўсмешкай!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, Божага благаслаўлення, апекі Божай Маці і нябеснага заступніка – святога Антонія! З Днём нараджэння!*

***Вернікі парафіі Святога Антонія ў Віцебску***

## Хвала Хрысту!



*Шаноўны **ксёндз Валерый Марціноўскі**!*

*Парафіяне касцёла Святога Антонія Падуанскага віншуюць Вас з днём народзінаў (11.06)! Жадаем Вам моцнага здароўя, Божай ласкі, здзяйснення ўсіх мараў, шмат сілы, моцы для служэння Пану Богу! Няхай Маці Божая штодня атуляе сваёй міласэрнасцю, а святло Уваскрослага Хрыста асвячае Ваш далейшы святарскі шлях!*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны **ксёндз-пробашч Аляксей Ляшко**!*

*Шчыра віншуем Вас з нагоды гадавіны святарскага пасвячэння!*

*Мы ўдзячныя Пану Богу за дар святарства для Вас! Дзякуем таксама ўсім Вашым родным і тым, хто маліўся аб дары паклікання і дапамагаў Вам у складаныя хвіліны.*

*Шчыра дзякуем Вам за навучанне Божаму слову, за душпастырскую апеку, за клопат пра нас, пра парафію і касцёл! Жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці ў сэрцы, цярпення, мудрасці, нястомных сіл у абвяшчэнні Евангелля, нязгаснага запалу ў святарскай працы!*

*Няхай Маці Божая благаслаўляе, апякуецца, дапамагае ў Вашых патрэбах, моліцца за Вас перад Божым тронам, ахінае ласкай і дабрынёй! Сто гадоў крочыць Вам дарогай святарства!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла Святога Айца Піа ў Лёзне***

## Хвала Езусу Хрысту!

*Парафіяне касцёла святога Антонія Падуанскага ў Паставах шчыра віншуюць свайго **пробашча Вадзіма Прасянога** з 11-годдзем святарскага пасвячэння (яно адбылося 22 мая 2010 года).*

*17 чэрвеня – гадавіна святарскага пасвячэння **ксяндза** нашай парафіі **Чэслава Куцмежа** і пробашча парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах **ксяндза Андрэя Бульчака**.*

*Шаноўныя нашы святары! Жадаем вам моцнага здароўя, апекі Маці Божай, шчодрых дароў Духа Святога! Дзякуем вам за шматгадовую святарскую паслугу, за клопат і дабрыню, за цярпенне, за малітву за ўсіх нас! Хай запаленая калісьці ў вашых сэрцах іскра паклікання гарыць яркім полымем доўгія гады! Вы ўносіце вялікі ўклад у скарбонку дабра Пастаўшчыны!*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шаноўны галоўны рэдактар "Каталіцкага Весніка" **ксёндз-канонік Віктар Місевіч**! Мы, пастаянныя падпісчыкі і ахвярадаўцы, шчыра віншуем Вас і ўвесь творчы калектыў газеты з нагоды дзесяцігадовага юбілею і жадаем Божай дапамогі ў высакароднай Божай справе! Асаблівую ўдзячнасць выказваем ксяндзу Віктару Місевічу за шчырыя духоўныя разважанні над Божым словам, якія вучаць нас шукаць свой непаўторны шлях да Бога, каб несці святло Божай любові ў нашае штодзённае жыццё.*

*Віншуем усіх святароў і ўсіх духоўных асобаў, у якіх на май прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскіх пасвячэнняў! Няхай Пан Бог дапамагае ў штодзённых клопатах, напаўняе энергіяй і благаслаўляе на доўгую і плённую службу, а Маці Божая хай падтрымлівае і пяшчотна туліць да свайго матчынага сэрца!*

***З вялікай павагай, падпісчыкі "Каталіцкага Весніка"***

## Віншуем!

*13 мая адсвяткавала Дзень нараджэння **сястра Ёнаша Мровец**, якая нясе сваё служэнне ў нашай парафіі, упрыгожваючы кожную літургію прыгожым спевам і ігрой на аргане.*

*Дарагая наша сястра Ёнаша! У Дзень нараджэння мы хочам ад усёй душы павіншаваць Вас і пажадаць усяго самага найлепшага, што можа толькі адбыцца ў жыцці! Хай Ваш жыццёвы шлях будзе прыемны і лёгкі, сустракайце толькі тых людзей, якія прынясуць ў жыццё супакой, святло і цяпло! Няхай добры Бог заўсёды адорвае Вас патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая хай апякуецца ў кожны дзень Вашага жыцця! Просім, заставайцеся такой жа вясёлай і добрай заўсёды!*

***З малітвай і павагай, парафіяне катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску***

# Чыні дабро і пазбягай зла: натуральны закон і сумленне

**Бог стварыў чалавека на свой вобраз і падабенства і абдараваў яго магчымасцю разумнага пазнання і вольнасцю дзеяння. Гэта значыць, што ў жыцці нам пастаянна даводзіцца рабіць выбар, прымаць рашэнні, як паступіць, і несці за іх адказнасць.**

**с. Дар'я Галубкова OV**, *доктар тэалогіі*

Чалавек з'яўляецца, можна сказаць, маральнай істотай: яго свядомыя і добраахвотныя ўчынкі могуць быць добрыя ці кепскія. Як жа зразумець, што можна рабіць, а чаго нельга? Як адрозніць дабро ад зла? Якім чынам чалавек пазнае свае маральныя абавязкі? Адказ на гэтыя пытанні хаваецца ў самой чалавечай натуры, маральным законе і сумленні.

Увесь сусвет, створаны Богам, падпарадкоўваецца пэўным законам. Ноч змяняе дзень, а дзень – ноч. Адбываецца кругаварот вады ў прыродзе. У жывёл ёсць свае законы – інстынкты: маленькія птушаняты вучацца лётаць і знаходзіць ежу, вавёркі збіраюць запасы на зіму. Цяжка ўявіць нават, што магло б здарыцца, калі б увесь гэты парадак перастаў дзейнічаць! Калі б Зямля спыніла свой бег вакол сонца або калі б перасталі працаваць законы гравітацыі, то, напэўна, і само жыццё на зямлі перастала б існаваць.

Ёсць таксама шмат законаў, дамоваў, устаноўленых людзьмі, якія рэгулююць жыццё ў грамадстве, дзяржаве (напрыклад, Канстытуцыя) або нейкай супольнасці (Кананічнае права ў Касцёле). Яны павінны дапамагаць людзям жыць у шчасці, згодзе і справядлівасці. Аднак жа найвышэй за ўсе гэтыя законы і нормы права стаіць Бог – Стваральнік сусвету – і Яго маральны закон. Боскі закон быў абвешчаны ў тым ліку праз аб'яўленне волі Божай у гісторыі збаўлення (праз патрыярхаў, прарокаў, а ўрэшце праз Сына Божага Езуса Хрыста). Калі спытаць хрысціяніна, што з'яўляецца асноўным маральным кодэксам, якога ён трымаецца, то ён, пэўна ж, назаве Дзесяць Божых запаведзяў. А што ж тады з тымі, хто не верыць ці яшчэ не ведае Хрыста? Ці распаўсюджваецца на такіх людзей Боскі закон, і як яго пазнаць?

Справа ў тым, што свой адвечны закон Бог аб'явіў таксама (а нават перадусім) у самім чалавеку, праз стварэнне чалавечай натуры. Ён упісаў гэты маральны закон, які завецца натуральным, у сэрца кожнага. Натуральны закон – гэта дар нашага Стваральніка, агульны для ўсіх людзей, нават для непісьменных ці для тых, хто не верыць у Бога, хто ніколі не чуў пра Яго. Гэты закон сталы і нязменны. Ён кажа нам рабіць дабро, пазбягаць зла і абыходзіцца з іншымі людзьмі так, як хочаш, каб абыходзіліся з табой.

> **„сумленне трэба фарміраваць, удасканальваць і развіваць"**

Натуральны закон, аднак, нельга разумець як нейкі касмічны парадак, лад, пра які была мова вышэй, што кіруе чалавекам паводле гатовых прынцыпаў, як інстынкты кіруюць жыццядзейнасцю жывёл. Калі Бог учыніў чалавека разумным і вольным, то не хацеў, каб той, нібы марыянетка, падпарадкоўваўся Яго волі, але каб ён сам свабодна і адказна вызначаў свой шлях, імкнуўся да дабра і прымаў Божы заклік.

Каб дапамагчы чалавеку паступаць паводле натуральнага закону, каб ён мог зразумець, як прымяніць яго ў розных жыццёвых сітуацыях, Бог даў яму спецыяльную здольнасць, уласцівую толькі для разумных стварэнняў – сумленне. Слова "сумленне" нярэдка гучыць з нашых вуснаў, мы кажам: "Маё сумленне чыстае", "Я ўсё зрабіў паводле сумлення" або "Мяне турбуюць згрызоты сумлення". Кожнаму чалавеку так ці інакш даводзілася чуць гэты "ўнутраны голас", які падказвае яму, што варта рабіць, а чаго не, адрозніваць дабро ад зла, а таксама давае маральную ацэнку яго ўчынкам. Калі мы зрабілі нешта добрае, то адчуваем супакой і задавальненне, сумленне хваліць нас. Калі ж учынілі грэх – смутак і згрызоты, бо сумленне нас асуджае. Дастаткова ўзгадаць Адама, каторы пасля таго, як не паслухаў Бога, пачаў хавацца ад Яго ў райскім садзе.

Вучэнне II Ватыканскага Сабору называе сумленне "санктуарыем чалавека, у якім ён застаецца сам-насам з Богам, голас Якога гучыць у яго ўнутры". Такім чынам, сумленне – гэта "меса", прастора спаткання Бога з чалавекам, дзе ён стаіць перад аблічам Божага паклікання.

У адрозненне ад натуральнага закону, аб'ектыўнага і нязменнага, сумленне з'яўляецца суб'ектыўнай нормай маральнасці, асабістай і індывідуальнай, а таму і недасканалай. Як і кожныя здольнасці, каторыя чалавек мае – музычныя, тэхнічныя ці мастацкія – сумленне трэба фарміраваць, удасканальваць і развіваць. Гэтаму спрыяе правільнае выхаванне, выбудоўванне іерархіі



с. Дар'я Галубкова OV.

каштоўнасцяў, арыенцір на добры прыклад бліжняга, крытычнае разважанне пра свае паводзіны.

> **„Ніколі нельга паступаць супраць сумлення ці змушаць да гэтага іншага чалавека"**

Для хрысціяніна дапамогай у выхаванні сумлення служыць таксама чытанне Слова Божага і рэлігійнай літаратуры, пазнаванне праўдаў веры, малітва, рэгулярны рахунак сумлення і прыняцце сакраманту пакаяння. Мы ведаем, што загана першароднага граху чыніць нас маральна слабымі: не заўсёды мы да канца пазнаём і прымаем праўду ды і воля часам з цяжкасцю робіць выбар на карысць дабра. Дадатковай апорай для сумлення вернікаў з'яўляецца аб'вешчаны ў Святым Пісанні Божы закон і аўтарытэт Настаўніцтва Касцёла (вучэнне Папы і біскупаў).

Добра выхаванае сумленне можна параўнаць з магнітнай стрэлкай компаса, якая заўжды паказвае на поўнач. Калі компас паваряцца, стрэлка будзе трымцець аж да таго моманту, калі зноў не стане на месца, паказваючы правільны кірунак. Сімвалам сумлення таксама могуць стаць чуллівыя шалі, на якія варта толькі пакласці маленькую крышынку хлеба – і яны пераважаць.

Можа, аднак, узнікнуць такая сітуацыя, калі сумленне па прычыне свайё недасканаласці падказа нам выбраць тое, што не згаджаецца з Божай воляй. Тым не менш трэба заўжды кіравацца ўказаннямі сумлення, нават калі ў выніку наш маральны выбар акажацца памылковым. Ніколі нельга паступаць супраць сумлення ці змушаць да гэтага іншага чалавека. Прыкладам для нас з'яўляюцца шматлікія хрысціянскія мучанікі, якія аддалі сваё жыццё за тое, што да канца былі сумленныя і верныя Божай праўдзе.

Хоць наяўнасць сумлення і ўласцівая ўсім людзям, некаторыя, на жаль, могуць заглушыць яго голас у сабе. У выніку яно можа стаць занадта скрупулёзным ці шырокім, вераломным або зусім пакручастым і весці чалавека памылковым шляхам. Вялікаю небяспекай з'яўляюцца таксама фальшывыя ўяўленні пра чалавека, якія ставяць яго на месца Бога, вызнаюць яго асабістыя перакананні як адзіную крыніцу ўсіх нормаў і правоў. Прыхільнікі такога падыходу перакананыя, што чалавек сам можа вызначаць сабе маральныя прынцыпы або не мець іх увогуле, паводзіць сябе "па сітуацыі", каб "акупілася".

Змяняюцца часы, і можа здавацца, што нейкія маральныя нормы ўжо састарэлі, а паняцце сумлення ўжо неактуальнае ў сучасным свеце. Між тым трэба памятаць, што сумленне падпарадкоўваецца вышэйшай норме – натуральнаму закону, а ён у сваю чаргу застаецца нязменным, бо з'яўляецца адлюстраваннем вечнага Божага закону ў чалавечай натуры.

Такім чынам, кожны чалавек, які можа карыстацца розумам і воляй, незалежна ад эпохі і месца, у якіх жыве, ад адукацыі ці рэлігійных перакананняў, здольны адкрыць Божы закон у сваім сэрцы і жыць паводле яго, прыслухоўваючыся да свайго сумлення. Няхай жа Бог – наш Стваральнік і Заканадаўца – нам у гэтым дапаможа!

## Падзяка



Ад усяго сэрца дзякуем **ксяндзу Адаму** з касцёла Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе за клопат, дабрыню, добразычлівасць і дапамогу ў цяжкую хвіліну жыцця! Цудоўна, што ёсць такі добрай душы чалавек – ксёндз Адам! Кланяемся і дзякуем яму!

*З павагай, Марыя і Аксана, г. Браслаў*



## Спачуванне

**Ваша Эксцэленцыя, шаноўны біскуп Алег Буткевіч!**

Падзяляем з Вамі цяжар страты, выказваем шчырае спачуванне Вам і Вашым родным і далучаем свае малітвы аб радасці вечнага шчасця ў Нябесным Валадарстве для Вашага спачылага **таты Часлава Буткевіча**. Вечны адпачынак дай яму, Пане, а святло вечнае няхай яму свеціць.

*Супрацоўнікі рэдакцыі "Каталіцкага Весніка"*

Парафіяльная супольнасць Віцебскага катэдральнага касцёла выказвае глыбокае спачуванне **Яго Эксцэленцыі біскупу Алегу Буткевічу** ў сувязі са смерцю таты. Смуткуем разам з Вамі і просім міласэрнага Бога аб вечным супакоі для душы спачылага Часлава.

# Бацькі і дзеці. Пра дзяцей у касцёле, рэлігійнае выхаванне і кірунак на Пана Бога



**Хутка скончыцца пандэмія, святыні напоўняцца вернікамі і пытанне прысутнасці дзяцей у касцёле зноў стане актуальным. З якога ўзросту трэба прыводзіць дзіця на святую Імшу? Што рабіць, калі малое перашкаджае супольнасці на літургіі? А ці грэх гэта – увогуле не браць дзяцей у касцёл, пакуль яны не дасягнулі ўзросту свядомага ўдзелу ў Імшы?**

**Аксана Нядвецкая**

Калі я сустракаю ў каталіцкай прэсе артыкулы па названых пытаннях, заўсёды прачытваю. Пісаў на гэту тэму і "Каталіцкі Веснік" ("Дзеці ў касцёле", № 2, 2020 г.). Коратка перакажу парады кс. Станіслава Мжыглуда, бо ў сваім артыкуле буду да іх звяртацца. Шмат святароў і свецкіх людзей наракаюць, што дрэнныя паводзіны дзяцей у касцёле перашкаджаюць ім удзельнічаць у літургіі. Калі бацькі не ў стане хутка супакоіць дзіця, ім даводзіцца выходзіць з касцёла. У святыню зноў вяртаецца спакой, але бацькі ўжо не могуць удзельнічаць у святой Імшы. Дзіця вучыцца эмацыянальнаму шантажу: яно разумее, што стуканнем нагамі і крыкам можа дабіцца свайго. І калі бацькі ў такіх выпадках будуць пастаянна выводзіць дзіця з касцёла (дзе яму нудна і нічога незразумела), то, напэўна, зробяць памылку ў рэлігійным выхаванні.

Нельга дазваляць дзіцяці есці ў касцёле, не трэба браць на Імшу цацкі. Ад пачатку вельмі важна вучыць малых уважлівасці, магчымасці сканцэнтравацца на адной рэчы на працяглы час. Гэтая здольнасць будзе пазней патрэбная малому ў школе, дзе трэба быць уважлівым увесь урок, а гадзіна ўрока – гэта прыкладна той час, як і на літургіі.

Вось з гэтага моманту і хачу пачаць сваё разважанне. Магчыма, я памыляюся. Тады буду ўдзячная, калі хтосьці пераканае мяне ў адваротным. Бо нішто так не спрашчае жыццё, як цвёрдае перакананне ў правільнасці выбранага кірунку.

Спачатку акрэслім дзіцячы ўзрост, пра які пойдзе размова. І ксёндз Станіслаў, як можна зразумець з яго артыкула, і я маем на ўвазе дзяцей дашкольнага ўзросту – да сямі гадоў. Ведаеце, колькі ідуць заняткі з дзецьмі сярэдняй групы дзіцячага садка? 25 хвілін. Псіхолагі, педагогі і выхавальнікі зразумелі, што гэта максімум, які можа выдаць дзіця 4-5 гадоў. Пры гэтым выхавальнік шукае падыход да дзіцяці, тлумачыць яму заданні на даступнай мове, дазваляе ўставаць з месца, пытацца пра незразумелае, нават гімнастыка для пальчыкаў прадугледжана. Ці можам мы дазволіць рабіць усё гэта падчас Імшы? Ці не занадта шмат мы патрабуем ад сваіх дзяцей, калі просім (або прымушаем) іх ціха сядзець на незразумелым для іх мерапрыемстве сярод чужых людзей? А ў якім узросце, шаноўныя бацькі, мы з вамі самі зразумелі, што сапраўды адбываецца на Святой Імшы?

Усе нашы дзеці, незалежна ад таго, наведвалі яны дзіцячы садок ці не, ва ўзросце 6–7 гадоў ідуць у школу. І гэта вельмі важная падзея для іх. У школе яны праводзяць адзінаццаць гадоў жыцця, атрымаюць неабходныя веды, навучацца супрацоўнічаць з калектывам, сябраваць, быць адказнымі і самастойнымі. Нам, бацькам, так хочацца, каб дзеці пайшлі ў школу падрыхтаванымі і каб першыя дні ў новых абставінах не выклікалі ў іх страху. Але ж мы не пачынаем прыводзіць іх на заняткі з першых месяцаў жыцця, каб спрасціць ім адаптацыю і навучыць вытрымцы. Не! Толькі ва ўзросце шасці гадоў! І нагадаю, што ўрокі ў першакласнікаў – па 35 хвілін з займальнымі перапыначкамі (фізкультхвілінкамі, гімнастыкай для пальчыкаў, практыкаваннямі для зроку) у сярэдзіне ўрока.

Я вяду да таго, што нельга патрабаваць ад дзіцяці немагчымага. Жвавы чатырохгадовы хлопчык і дапытлівая трохгадовая дзяўчынка – гэта не той кантынгент, для якога пабудавана літургія. Пан Бог чакае дзяцей, Ён хоча іх бачыць, хоча, каб яны развіваліся ў любові і спагадзе, каб пазнавалі Яго, але ж, напэўна, у Яго хопіць цярпення дачакацца, пакуль Яго будучыя вучні дарастуць да свядомага ўзросту.

А зараз хачу паглядзець на справу з іншага боку – з боку маці, якая ўдзельнічае ў св. Імшы разам са сваімі малымі дзецьмі. З уласнага вопыту ведаю, што нават адно дзіця да 4-5 гадоў вельмі перашкаджае маці падчас літургіі. А калі прывесці двух, трох або чатырох дзяцей? Аднаму трэба адказаць на ўсе пытанні, другі хоча то піць, то есці, трэці пастаянна цікавіцца, колькі хвілін засталося да канца, а самы маленькі ўвогуле ні пра што не пытаецца і нічога не чакае: пачынае гучна плакаць, пакуль не выйдзеш з ім на двор. Маці, якая дома аддае ўвесь свой час дзецям, і тут не можа спакойна маліцца, спяваць з іншымі вернікамі, слухаць казанне. Дзецям малодшага ўзросту на публічных мерапрыемствах неабходны выхавальнік, які будзе дапамагаць ва ўсіх патрэбах. І маці ў касцёле з'яўляецца такім выхавальнікам, а ёй добра было б пабыць звычайнай верніцай. Бо нядзельная святая Імша, калі прыводзіш на яе маленькіх дзяцей, становіцца толькі гадзінай часу, які неабходна адбыць, нягледзячы ні на што.

Сваім артыкулам я не хачу сказаць, што гэта дрэнна – прыводзіць малых дзяцей на Імшу. Ні ў якім разе! Мне самой чужыя дзеці не перашкаджаюць у касцёле. Мяне настолькі загартавалі мае пяцёра дзяцей, што ні гучныя размовы, ні плач, ні беганне па святыні дзяцей, за якіх я не нясу непасрэднай адказнасці, не могуць перашкодзіць мне ў перажыванні літургіі. Але тое, што я разумею сітуацыю і спачуваю бацькам (і асабліва дзецям, якія вымушаны цярпець чужых людзей і незразумелыя абставіны, яны нават уявіць не могуць, які цуд вось-вось адбудзецца, – асабліва дзецям спачуваю!), зусім не значыць, што такая сітуацыя павінна мець месца ў касцёле. Я згодная з ксяндзом Станіславам, што есці ў касцёле – дрэнна, гуляць у цацкі – дрэнна, але не ведаю спосабу, як рымусіць дзіця адбыць хаця б 45 хвілін самай кароткай Імшы.

Прыгадаю тут выпадак, сведкай якога стала адночы на рэкалекцыях. Касцёл невялікі, шмат пажылых вернікаў. На Імшу прыйшла мама з двухгадовым хлопчыкам. Спачатку хлопчык трымаўся і ціха сядзеў. Але ж калі пачалося казанне, цярплівасць малога скончылася, і ён пачаў хадзіць па касцёле. Затым пачаў адчыняць і зачыняць дзверы. Людзі сталі адварочвацца. Святар таксама заўважыў паводзіны малога і сказаў, каб мама не хвалявалася, бо яму хлопчык не перашкаджае. Шаноўныя мамы! Святары – вельмі выхаваныя асобы, яны не могуць папрасіць нас выйсці з касцёла. Але ж мы самі можам здагадацца пра гэта! Бо тая мама, калі атрымала "дазвол" ад святара, працягвала хадзіць па касцёле за сваім хлопчыкам, які грукаў, бегаў, выкрыкваў нешта. А святар столькі сур'ёзных рэчаў збіраўся расказаць у той дзень...

А зараз крыху слоў у абарону бацькоў. У артыкуле кс. Станіслава прагучала думка аб прыхоўванні частых памылак бацькоў у рэлігійным выхаванні і меркаванне, што "ў нядобрых паводзінах дзіцяці ў касцёле вінаватыя ў большай ступені самі бацькі". Так, вінаватыя. Але вінаватыя ў тым, што прыводзяць дзяцей не ў тое месца не ў тым узросце. А наконт рэлігійнага выхавання хачу выказацца так: каб рэлігійна выхаваць дзяцей, бацькам самім трэба быць у гэтым сэнсе добра выхаванымі. І справа не ў ціхім сядзенні на Імшы, а ў рэлігійнай свядомасці, рэлігійнай адукаванасці і добрым разуменні таго, што і для чаго адбываецца падчас літургіі. Ці шмат бацькоў майго ўзросту могуць пахваліцца гэтым? А ці спрыяе паглыбленню рэлігійных ведаў шматгадовае наведванне касцёла разам з дзецьмі і ўдзел у Імшы з казаннем для дзяцей?

Я не ведаю, добра ці дрэнна выхоўваю сваіх дзяцей (гэта з якога боку паглядзець і чыімі вачыма). Шмат разоў я трапляла з імі ў непрыемныя сітуацыі, неаднаразова мне было сорамна за іх паводзіны і за свае. Але ўсё залежыць ад высноў, якія мы разам робім пасля недарэчнай сітуацыі. Галоўнае – рухацца наперад. У пазнанні Бога, у знаёмстве з жыццём, у валоданні сабой, у барацьбе з цяжкасцямі і выпрабаваннямі. Рабіць высновы, давяраць Богу – і наперад. Нельга казаць пра дрэннае выхаванне двух- або трохгадовых дзяцей, бо выхаванне – доўгі, непрадказальны і шматгранны працэс.

Калі прааналізаваць рэлігійную "спадчыну", якую перадалі мне маці з бабуляй, то, акрамя базавых ведаў пра Бога, знойдуцца ў ёй і непатрэбныя на Імшы жэсты, і неактуальныя ўжо формы культу, нават рэлігійныя забабоны. Але ж галоўнае, што патрэбна было зрабіць бацькам, мае бацькі зрабілі дасканала. Па-першае, яны своечасова паведамілі мне, што Бог ёсць, Ён быў і будзе, незалежна ад таго, што кажуць іншыя. А па-другое, бацькі дазволілі мне верыць таму, што кажуць у касцёле, дазволілі святарам і сёстрам кіраваць маім рэлігійным выхаваннем і ніколі не бралі пад сумнеў сцвярджэнні, якія я прыносіла з касцёла. І сапраўды, многае з таго, што не змаглі перадаць мне бацькі (яны па зразумелых прычынах не атрымалі выхавання з боку Касцёла), я пачула ад святароў, прачытала ў каталіцкай прэсе, рэлігійных выданнях, знайшла ў Бібліі. І чым больш пазнаю Касцёл і Бога, тым больш разумею, як шмат прабелаў у маіх ведах.

Напрыканцы артыкула хацела б падкрэсліць, што сваімі словамі я не змагаюся супраць малых дзяцей у касцёле, супраць наведванняў нядзельнай Імшы цэлымі сем'ямі з некалькімі малымі дзецьмі. Выступаць супраць не ў маіх правілах. Але я дакладна ведаю, за што змагаюся на старонках выдання, якое вы зараз чытаеце. За міласэрнасць да дзяцей і выхаванне з улікам узросту. За любоў да супольнасці і павагу да святароў і вернікаў, якія ўдзельнічаюць у Імшы. За права маці (і асабліва шматдзетнай маці) на поўны і індывідуальны ўдзел у святой Імшы. За пастаянны духоўны рост і рэлігійную свядомасць. За здаровае рэлігійнае выхаванне і перадачу дзецям кірунку на Бога, а не толькі набору жэстаў, укленчванняў і правілаў паводзін.

***

Мае дочкі здымаюць відэа для папулярнай сацсеткі. Мне спадабаўся адзін трэк (гукавая дарожка), які яны бралі за аснову: "Усе шукаюць сваю другую палову, а мне пашанцавала – я нарадзілася цалкам!" І мне пашанцавала. Я таксама нарадзілася цалкам. Усё астатняе – толькі заданне...

**Разважанні над Божым словам чытайце на сайце *Catholicnews.by***

# ПАЗНАВАЙКА

**Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл.**

У гэтым нумары разам даведаемся, якім чынам Давід перамог Галіяфа, і якая моц спадарожнічала яму.

Каб добра выканаць заданні прачытай 17 главу кнігі Царстваў.

## ЗАДАННЕ 1.

Ці ведаеш ты з якога народу паходзіў Галіяф? Калі па чарзе выпішаш літары з пялёсткаў кветкі, даведаешся, да якога народу прыналежыў Галіяф.




Адказ:________________

## ЗАДАННЕ 2.

Рыхтуючыся да бітвы з Галіяфам, Давід збіраў камені. Дапамажы Давіду сабраць усе камені і палічы, колькі іх.



## ЗАДАННЕ 3.

Давід перамог Галіяфа каменем і прашчаю. Паглядзі, як гэта адбывалася і знайдзі 5 адрозненняў на малюнках.





## ЗАДАННЕ 4.

Давід сказаў Галіяфу вельмі важныя словы, у якіх была сутнасць яго перамогі. Выпішы па парадку словы і прачытай, што Давід сказаў Галіяфу перад бітваю.

іду[13] "Ты[1] з[5] ідзеш[2] мячом[6] ў[16]
імя[17] і[7] цябе[15] супраць[3] мяне[4]
а[11] я[12] ты[24] дзідай[8] і[9] якое[23]
супраць[14] Бога[20] Саваофа,[19]
войска[21] Госпада[18] ганіў".[25]
Ізраільскага,[22] шчытом,[10]

________________________________________________

________________________________________________

________________________________________________

## Памаліся

**разам з бацькамі ці сябрамі гэтай малітвай за нашу Бацькаўшчыну.**

"Госпадзе, прашу цябе за нашу Беларусь, за супакой і еднасць паміж людзьмі, аб міры і любові адзін да аднаго. Благаславі нашу Бацькаўшчыну. Спашлі Духа Святога на слугаў Тваіх, якія кіруюць нашай краінай, каб яны згодна з Тваёю воляю маглі мудра і справядліва кіраваць даверанымі ім людам. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

## Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі

*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў

(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага апаратара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на “Каталіцкі Веснік”, Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

*Рэдакцыя сайта Catholicnews.by*

### На чэрвень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 чэрвеня** – дзень нараджэння і гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **ксёндз-канонік Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*;

**3 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*; імяніны адзначае **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*;

**9 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*, **кс. Алег Зямчонак** *(Віцебск)*;

**11 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Марціноўскі** *(Паставы)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Росіца)*;

**13 чэрвеня** – імяніны адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Валкалата)*, **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Аляксандр Дулінец** *(Мёры)*;

**15 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*;

**17 чэрвеня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*, **кс. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы)*;

**19 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Росіца)*, **а. Ілля Саўчанка MIC** *(Орша)*;

**20 чэрвеня** – імяніны адзначае **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*;

**21 чэрвеня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **ксёндз-канонік Яцэк Хутман** *(Камаі)*, **кс. Віктар Сініцкі SCJ** *(Шаркаўшчына)*;

**22 чэрвеня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Аляксандр Астраушка OFMCap** *(Докшыцы)*;

**23 чэрвеня** – імяніны адзначае **кс. Зэнон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**24 чэрвеня** – імяніны адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Дрысвяты)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*;

**27 чэрвеня** – імяніны адзначаюць біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін, **кс. Уладзіслаў Шарковіч** *(Глыбокае)*;

**29 чэрвеня** – дзень нараджэння і імяніны адзначае **а. Пётр Ясевіч OFMCap** *(Валкалата)*; імяніны адзначае **кс. Павел Самсонаў** *(Дунілавічы)*.

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***



# У Браславе развіталіся з татам біскупа Алега Буткевіча

**17 мая ў Браславе адбылося развітанне з Чаславам Буткевічам – бацькам старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскупа Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча і сясцёр эўхарыстак Алы Буткевіч SJE і Ганны Буткевіч SJE.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Часлаў Буткевіч адышоў у вечнасць 15 мая ва ўзросце 76 гадоў ад пнеўманіі ў Віцебскім абласным шпіталі.

Падтрымаць сям'ю ў жалобе ў Санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе сабраліся арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч, дапаможныя біскупы Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі і Аляксандр Яшэўскі SDB, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, прэзбітэрый Віцебскага касцёла, святарыаднакурснікі, кансэкраваныя асобы, родныя і сябры.

Цэлебрацыю пахавальнай св. Імшы і абрады пахавання ў касцёле і на могілках ўзначаліў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які адзначыў на самым пачатку, што “не толькі сям'я, але і парафія страціла свайго верніка”.

У гаміліі іерарх нагадаў жыццёвы шлях спачылага. “Св.п. Часлаў нарадзіўся ў далёкім 1945 годзе, 19 сакавіка – ва ўрачыстасць св. Юзафа. Гэта прыкметна, бо і ў Год святога Юзафа Бог яго паклікаў у Сваё Валадарства. Нарадзіўся ў той час, калі на гэту зямлю з глыбокімі хрысціянскімі каранямі і верай людзей прыйшоў атэістычны рэжым, але застаўся верным, верным сваім продкам, і ў гэтай веры выхоўваў сваіх дзяцей. Выхаваў аднаго на святара, які потым стаў біскупам, і дзвюх дачок – сёстрамі эўхарысткамі.

Ён бараніў Касцёл, бараніў правы касцёла, быў чальцом парафіяльнай рады. Стараўся, каб святыня была месцам духоўнага адраджэння чалавека. Быў добрым сем'янінам, добрым суседам, добрым грамадзянінам. І гэтыя справы ідуць за ім. Мы з сабой нічога не возьмем, пераходзячы ў іншае жыццё”, – падкрэсліў арцыбіскуп Тадэвуш.

На заканчэнне Эўхарыстыі біскуп Алег падзякаваў усім, хто апошнія часы падтрымліваў яго бацькоў, маліўся разам, тым, хто быў побач з яго маці і сёстрамі ў апошнія гадзіны развітання, а таксама згадаў пра тое, якім чалавекам ён запамятаў свайго тату.

“Ён быў звычайным, але веруючым чалавекам. Асабліва яго вера праявілася тады, калі неспадзявана для бацькоў іх дзеці адчулі пакліканне да Божай службы.




Біскуп Алег распавёў, што тата навучыў яго двум рэчам, якія цяпер памятае з дзяцінства і кіруецца імі:

Ніколі нікому не рабі таго, чаго не хочаш каб рабілі табе.

Калі цябе зачапілі, умей бараніцца, але ніколі не лезь нікуды першым.

“Я на ўсе жыццё зразумеў, як гэта дзейнічае: чым больш дакладна захоўваю першы прынцып, тым менш у жыцці трэба карыстацца другім. Такая простая людская мудрасць. Тое, што бацькі могуць даць сваім дзецям.

Тата быў добрым сем'янінам і пражыў з маці 50 год, у гэтым годзе быў юбілей. І гэта ўжо сведчанне. Тое за што можна яму падзякаваць”, – адзначыў сын спачылага.

Пасля абрадаў развітання ў касцёле пахавальная працэсія накіравалася на могілкі ў вёску Агоні, што непадалёку ад Браслава, дзе на сціплых вясковых могілках, побач са сваімі бацькамі быў пахаваны Часлаў Буткевіч.

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – В; 3 – Б; 4 – Б; 5 – А; 6 – Б; 7 – А; 8 – В; 9 – А; 10 – Б

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:**
рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2420

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3400 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 20.05.2021 г. у 10.59

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь